


# наша слова


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 41 (727) 26 КАСТРЫЧНІКА 2005 г.

# 30 кастрычніка IX з'езд ТБМ

## Біблію Францішка Скарыны зберaглі лужычане

24 кастрычніка на факультэце журналістыкі БДУ прайшла прэс-канферэнцыя, наладжаная БДУ і Таварыствам беларуска-нямецкіх сустрэч з нагоды знаходкі ў Германіі асобніка Бібліі Францішка Скарыны. Для ўдзелу ў прэс-канферэнцыі з Германіі прыехаў Норберт Рандоў, кансультант па моўных пытаннях Федэральнага міністэрства замежных спраў, які і ідэнтыфікаваў знаходку.


БИВЛИЯ РУСКА
ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМЪ
ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
ИЗСЛАВНОГО ГРАДА ПО
ЛОЦЬКА, БОГУ КЪЧТИ И
ЛЮДЕМЪ ПОСПОЛИТЫМЪ
КДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ

Біблія Ф. Скарыны 1517-1519 года, выдадзеная ў Празе, была знойдзена ў горадзе Гёрліц у бібліятэцы **Верхне-Лужыцкага навуковага таварыства**. У кнізе 1316 старонак. Лужычане (лужыцкія сорбы) купілі Біблію Скарыны ў 1527 годзе, і з тых часоў яна знаходзілася ў горадзе. На сёння гэта адзіная кніга Ф. Скарыны на ўсю Германію.

*Наш кар.*

## *Шануйма продкаў*

### (Да Беларусі набліжаюцца Дзяды)

*Чым цягнецца вышэй*
*У неба дрэва –*
*Глыбей*
*Ідуць карані у зямлю...*
*Р. Барадулін*




З даўніх часоў славянскага язычніцтва сфармавалася сістэма народных уяўленняў. І кожная падзея ў жыцці селяніна - земляроба абавязкова была звязана з ушанаваннем продкаў.

З усіх памінальных святаў вызначаліся Зміт-раўскія Дзяды, тут і багацце памінальных старў, абавязкова іх колькасць павінна была няцотнай. Часцей за ўсё ад 7 да 19, тут было печыва, варыва і каша-куцця якую ставілі на падаконнік з вечара, запальвалі свечку, упрыгожвалі вышытым ручніком.

Уся сям'я, сеўшы за памінальны стол, абавязкова памаліўшыся Богу, а старэйшына роду кажа:

*Памяні Бог,*
*Хто ў яме,*
*Пaздароў, Бог,*
*Хто з намі!*
*Памяні, Божачка,*
*Душы іх,*
*Царства ім небеснае!*

Як адзначаюць многія фалькларысты і этнографы XIX і пачатку XX стагоддзяў, памінальныя Дзяды ўвосень -- гэта своеасаблівая падзяка продкам за атрыманы ўраджай, дабрабыт.

Да памінання продкаў рыхталі хату, падворак. Чыста мылі падлогу, прыбіралі двор, пасыпаўшы яго белым пясочкам.

З абеду грэлі лазню, ўсе мыліся і апраналіся ў чыстую вопратку. Увесь час родныя ўспаміналі гісторыі з жыцця памерлых, яны былі, як сумныя, так і вясёлыя, і запрашалі "дзядоў-радзіцеляў".

***"Прыходзьце. Дзяды-радзіцелі, і старыя і малыя, хто на гэтай сядзібе жываў, хлеба-солі ядаў. Прыходзьце дзяды-радзіцелі, к свайму сталу, к нашаму двару, да сваіх родных, мы вас памятам і шануем".***

У некаторых месцах Беларусі ёсць павер'е: калі хто хоча пабачыць нябожчыка, трэба тры дні з чацвярга да дзедаўскай суботы пасціць-нічога не есці, не піць і не размаўляць. У дзедаву суботу трэба залезці на печ і цэлы дзень выглядаць у хату з-за коміна. Той, хто гэта выконваў, вечарам бачыў, як у хату заходзілі са свечкамі знаёмыя і не знаёмыя і сядалі за стол. "Хто Дзядоў не ўважаець, таму ўсяляк бываець".

*Мікола Котаў,*
*фалькларыст.*

## Сустрэча з Вольгай Іпатавай

Вольга Іпатава – вядомая беларуская пісьменніца і паэтка, ганаровы акадэмік Міжнароднай акадэміі навук "Еўразія", кавалер ордэна "Знак пашаны" і медаля Францішка Скарыны, лаўрэат літаратурных прэмій. Яе творы не раз перакладаліся на мовы розных краінаў свету.

Чарговая сустрэча са спадарыняй Вольгай адбылася 5 кастрычніка, а 18 гадзіне, у сядзібе ТБМ. Вызначаная тэма сустрэчы была: " Менск і яго ваколіцы ў творах беларускіх пісьменнікаў. Гісторыя ў вобразах".

Вядомая пісьменніца сваю гумарку пачала радкамі пра сваю родную Гародню. Затым Вольга Міхайлаўна падзялілася ўспамінамі пра Менск сталінскіх часоў, упершыню пабачаны ёю. Ён атаясамліваўся ў яе са старым Менскам (18 км ад сучаснага цэнтра сталіцы), дзе яна праводзіла даследванні разам з вядомым археолагам і гісторыкам Г. Штыхавым; з Нямігай, а таксама з пляцам Волі.

Спадарыня Вольга распавяла пра розныя культурныя пабудовы Менска тых часоў, а таксама пра іх гісторыю. Узгадала летапісца Нестара, рачушку Чарніцу, якая тоненькай стужкай бяжыць у горадзе Рагнеды - Заслаўі.

Увогуле, гэтую сустрэчу нават нельга назваць лекцыяй. Гэта – прыемная гутарка з вельмі разумным чалавекам, які змог прыцягнуць увагу, як дарослых людзей, так і малады студэнтаў. І гутарка гэта закранула яшчэ многа іншых тэм.

Напрыклад, вельмі цікавай была тэма: "Беларускія жанчыны на троне". У першую чаргу гэта былі Рагнеда і Ефрасіння Полацкая, якія былі на "духоўным" троне. Але ёсць звесткі, што падчас кіеўскага палону полацкай дынастыі, менавіта Ефрасіння кіравала Полацкам, нават мела сваю гербавую пячатку.

Сапраўдная уладаркай з'яўлялася Сафія Вітаўтаўна, жонка Васіля І, маці Васіля Цёмнага – вялікіх князёў Масковіі.

Узгадвала Вольга Міхайлаўна і Алену Глінскую, маці Івана ІУ Жахлівага. Менавіта пры ёй з'явілася на Русі капейка, яна заснавала Кітай-город у Маскве, аднавіла Усцюг (Кастраму).

Прагучалі імёны і Сафіі Гальшанскай-жонкі Ягайлы, і, вядома ж, Марфы Скаўрон, больш вядомай у гісторыі як Кацярына І. Жонка Пятра І, была пасапраўднаму каранавана і, нават, узнагароджана ордэнам за выратаванне Пятра І і яго войска ў Прускім паходзе ў 1711 г.

Увогуле, атмасфера сустрэчы была вельмі цёплай. Яна скончылася на мажорнай ноце і толькі таму, што было ўжо позна. Але шаноўная Вольга Міхаілаўна ласкава пагадзілася сустрэцца са слухачамі яшчэ раз – 12 кастрычніка, так жа і ў той жа час. Гэта сустрэча адбылася таксама вельмі цікава і змястоўна.

*Алесь Сцяпанаў.*

## У ГАЙНАЎЦЫ (ПОЛЬШЧА) ПРАХОДЗІЦЬ ВЫСТАВА "ШЛЯХАМІ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА"

У музеі і цэнтры беларускай культуры ў Гайнаўцы (Польшча) праходзіць выстава "Шляхамі Францішка Багушэвіча", прымеркаваная да 165-годдзя беларускага паэта.

Як паведамляе прэс-служба пасольства Беларусі ў Польшчы, экспанаты выставы, што адкрылася 17 кастрычніка, прадастаўлены Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры. Выстава арганізавана беларускай дыпмісіяй у рамках праграмы супрацоўніцтва з беларускай нацыянальнай меншасцю "Беларусы Польшчы".

На выставе прадстаўлены дакументальныя і наглядныя матэрыялы, па якіх можна прасачыць жыццёвы і творчы шлях Ф. Багушэвіча, яго творы. Тут таксама можна азнаёміцца з фатаграфіямі краявідаў родных мясцінаў паэта і экспазіцыяй яго музея-сядзібы "Кушляны".

У адкрыцці экспазіцыі ўзялі ўдзел кіраўнік беларускай дыпмісіі Павел Латушка, генеральны консул у Беластоку Леанід Каравайка, мэр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк, намеснік дырэктара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Таццяна Захарава, кіраўнік галоўнага ўпраўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Ян Сычэўскі.

Чакаецца, што за час працы выставы з яе экспанатамі азнаёмяцца выкладчыкі і навучэнцы агульнаадукацыйных ліцэяў з беларускай мовай навучання і школ з Гайнаўкі і Бельска-Падляскага, а таксама мясцовыя жыхары і турысты, якія будуць наведваць гэты польскі рэгіён.

Выстава будзе працаваць да лютага 2006 года.

*М. РАХЛЕЙ, БелаПАН.*



№ 41 (727) 26 КАСТРЫЧНІКА 2005 г. Наша слова

# Даклад Старшыні Алега Трусава на IX з'ездзе Таварыства беларускай мовы

Паважаныя ўдзельнікі Высокага Сходу, дэлегаты, госці, журналісты!

Здаецца зусім нядаўна ў гэтых святых му-рах, пад Божай апекай мы ладзілі свой VIII з'езд. А між тым непрыкметна мінула два гады. У жыцці грамадскай арганізацыі – гэта усяго толькі імгненне ў параўнанні з вечнасцю. Але з гледзішча кожнага з нас у тым імгненні шмат таго, што не можа застацца па-за нашай увагай, ад чаго залежыць будучыня нашай краіны.

Якімі клопатамі жыла арганізацыя? Якія высновы з 2-гадовай дзейнасці мы мусім зрабіць сёння? Як жыць і працаваць далей ва ўмовах, калі наша родная мова знаходзіцца ў небяспецы, калі ўлады праяўляюць нездаровы інтарэс да дзейнасці недзяржаўных грамадскіх арганізацый, у тым ліку і да Таварыства беларускай мовы.

Шмат часу мы згубілі на тое, каб пераадолець тыя перашкоды, якія чынілі ў адносінах да нашага аб'яднання ўладныя структуры. Так на пачатку 2004 года Таварыства было ўцягнутае ў працяглую валакіту ў сувязі з тым, што ЖРЭА Партызанскага раёна Менска адмовілася працягваць дамову на арэнду памяшкання па вул. Румянцава, 13. Другі раз за гісторыю існавання навісла рэальная пагроза аказацца на вуліцы з усімі наступствамі для арганізацыі. Час паказаў, што ў адстойванні сваіх інтарэсаў мы абралі адзіна правільную тактыку – дзейнічаць хутка, актыўна і згуртавана. За кароткі час было сабрана сотні подпісаў сяброў і прыхільнікаў ТБМ у абарону нашай сядзібы, якія дасылаліся мясцовым гарадскім уладам. Мы ўдзячныя і беларускай дыяспары, якая папоўніла шэрагі абаронцаў за сядзібу. Тэрмінова было праведзена паседжанне Рады, дзе прыняты зварот да кіруючых органаў краіны. Усё гэта мела добры вынік. У сакавіку 2004 года мы атрымалі афіцыйны ліст за подпісам Кіраўніка Адміністрацыі Партызанскага раёна Менска П. Сямашкі аб працягу тэрміну арэнды да 4 лютага 2005 г. І хоць у гэтым лісце было сказана, што тэрмін гэты даецца дзеля таго, каб мы падшукалі новае памяшканне, сёлета ЖРЭА Партызанскага раёна перазаключыла з намі дамову на арэнду памяшкання да лютага 2006 года.

Але на гэтым нашае змаганне не скончылася. 23 лютага гэтага 2005 года Таварыства атрымала папярэджанне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь з прычына таго, што шэраг структураў ТБМ маюць юрыдычныя адрасы ў жылых памяшканнях. Было склікана нечарговае паседжанне Рады ТБМ, на якім прынята рашэнне: звярнуцца ў Мінюст з прапановай адмяніць папярэджанне, а ў выніку адмовы – падаць зыск у Вярхоўны суд. Справа дайшла да суду, у выніку якога быў вынесены вердыкт: адмовіць Радзе грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" ў задавальненні скаргі на вынясенне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь 16 лютага 2005 г. пісьмовага папярэджання. Нягледзячы на тое, што нам не ўдалося адмяніць папярэджанне, мы дамагліся, каб судовыя паседжанні вяліся на беларускай мове. На падзею адгукнуліся недзяржаўныя СМІ. Выконваючы рашэнне суду, кіраўніцтва ТБМ разаслала лісты ў выканкамы з просьбай зняць з уліку нашы структуры, якія маюць юрыдычны адрас у жылым фондзе. На сённяшні дзень рашэнне аб ліквідацыі нам даслалі толькі Слонімскі і Гарадзенскі раённы выканкамы. Асіповіцкая і Лідская раённыя арганізацыі знайшлі новыя юрыдычныя адрасы ў нежылым фондзе. Як вырашыцца лёс застаўшыхся – невядома. Пошукі новых адрасоў старшынямі арганізацый не мелі плёну, таму што дзяржаўныя ўстановы, якія звычайна давалі прытулак суполкам, ці то запалоханыя, ці то маюць загад зверху – не пушчаць! Вось такая просценькая метода пазбаўленыя ад непажаданых грамадскіх арганізацый.



Сёлета мы сутыкнуліся яшчэ з адной навінкай: некаторыя выканкамы патрабуюць ад раённых арганізацый ТБМ, якія стаяць на ўліку, каб юрыдычны адрас мела кожная суполка, што ўваходзіць у яе склад. Больш за тое. Ёсць выпадкі, калі мясцовая ўлада патрабуе спісы сяброў з пазнакай месца працы і пратаколы сходаў. Зразумела, што дзеля таго каб выжыць і пазбегнуць уціску з боку ўлады некаторыя сябры ТБМ, вымушаныя сысці, як кажуць, у цень, не праяўляць актыўна сваёй грамадзянскай пазіцыі. А каб пазбавіць сродкаў да існавання самых выдатных дзеячаў і высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія, нягледзячы на запалохванне, нясуць у сваіх сэрцах і актыўна прапагандуюць нацыянальную ідэю, паспяхова выкарыстоўваецца кантрактная сістэма працаўладкавання. Як стала вядома, у гэтым годзе пазбаўлены працы сябры Рады Віталь Гарановіч і Леанід Гаравы – абое дырэктары буйных сярэдніх школ, і Казімір Герасімовіч, настаўнік гісторыі Менскага педкаледжа № 1. Але дзякаваць Богу не ўсе мясцовыя выканкамы стаяць на каленях перад вышэйшай уладай. Мы маем прыклады іхняга плённага супрацоўніцтва з нашымі структурамі. І гэта натуральна. Так і павінна быць. Мы разам абавязаны стаяць на варце абароны дзяржаўнай мовы і незалежнасці самой краіны.

Акрамя гэтага, сёлета нам давялося абараняцца ад невядомых бандытаў схаваных пад шыльдай незарэгістраванай Нацыянал-бальшавіцкай партыі. Ноччу з 23 на 24 ліпеня яны запэцкалі чорнай фарбай шыльду, уваходныя дзверы сядзібы, зламалі замок, на сцяне намалявалі сваю эмблему з надпісам "НБП" і расклеілі адпаведныя ўлёткі. Па факту ўчыненага вандалізму Таварыства звярнулася спачатку ў міліцыю, а потым ў Камітэт дзяржбяспекі. На свой запыт мы атрымалі адказ з РУУС Партызанскага райвыканкама, які адмовіў нам ва ўзбуджэнні крымінальнай справы з прычыны адсутнасці складу злачынства. Нанесеная шкода склала 300 тысяч беларускіх рублёў, для ўзбуджэння крымінальнай справы неабходна, каб нанесеная шкода склала 40 базавых велічыняў (1.020.000 бел. руб). З КДБ адказу зусім не было.

Лічу, што праз усе гэтыя перашкоды мы прайшлі з годнасцю, яшчэ больш загартаваліся.

Як і мае быць, перад з'ездам мы зноў перагледзелі нашыя шэрагі. Па стану на першага кастрычніка ў шэрагах ТБМ налічваецца 7 тысяч грамадзян Беларусі і каля 300 замежных грамадзян. Зараз на тэрыторыі Беларусі дзейнічае 109 рэгіянальных арганізацый, прычым 60 з іх стаяць на дзяржаўным уліку ў мясцовых органах улады. Суполкі ТБМ існуюць у Літве, Латвіі, Расіі, Украіне, Польшчы, Германіі, ЗША, Англіі, Канадзе і іншых краінах свету. 2036 сяброў ТБМ ужо маюць Пасведчанні. За справаздачны перыяд у ТБМ было прынята 240 сяброў. Большасць з іх – студэнцкая моладзь.

Гэта вялікая сіла, якая здольная супрацьстаяць праявам парушэння канстытуцыйных правоў грамадзян на атрыманне інфармацыі ў роднай мове, навучанне на ёй сваіх дзяцей, гвалтоўнай русіфікацыі, адкуль бы яна не зыходзіла – ад сваіх "тутэйшых" ворагаў беларушчыны ці звонку. Толькі трэба верыць у свае сілы, не апускаць рукі, пазбаўляцца інертнасці і страху.

Наш удзел у зборы подпісаў на імя пасла ФРГ у Беларусі з патрабаваннем ад радыёстанцыі "Нямецкая хваля" вяшчання на мове тытульнай нацыі – цяжка пераацаніць. Пра тое, што гэтая праца не марная, сведчаць адказы на нашыя лісты, якія мы атрымалі з Пасольства, а таксама сустрэча старшыні Алега Трусава з амбасадарамі і супрацоўнікамі амбасадаў краін Еўразвязу ў Беларусі, на якую ён быў запрошаны 13 верасня. Пра ўсё гэта падрабязна пісала "Наша слова", дзе змешчана нашае ліставанне з тымі, ад каго залежыць мова перадач на Беларусь. Па адказах можна прасачыць як пад ціскам беларускай грамады эвалюцыянуе думка нашых апанентаў, як шалі павольна схіляюцца на карысць нашых пераканаўчых аргументаў. Калі напачатку радыёстанцыя "Нямецкая хваля" заявіла, што двухмоўнае вяшчанне – гэта "доўгатэрміновае перспектыва", то сёння гаворка ідзе ўжо пра "сярэднетэрміновую перспектыву".

Плён кампаніі за беларускую мову перадач "Нямецкай хвалі" відавочны. Ён стаў магчымым дзякуючы аб'яднанню намаганняў усіх дэмакратычных сілаў Беларусі, падтрымцы з боку незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Мы абавязаны абараніць краіну ад знешняй лінгваінтэрвенцыі, выкрыць тых, хто пад выглядам добрых намераў, з мэтай усталявання ў Беларусі дэмакратыі ігнаруе той факт, што 73,6 % грамадзян лічаць сваёй роднай беларускую мову, нягледзячы на палітыку русіфікацыі, якая мэтанакіравана праводзіцца ўладнымі структурамі пасля рэферэндуму 1995 г. Мы не маглі маўчаць, калі кіраўнік рускай службы радыёстанцыі "Нямецкая хваля" Карнэлія Рабіц у інтэрв'ю "Народнай волі" заявіла: "Пачатак спрэчцы пра мову паклала і ўсё больш нагнятае сітуацыю невялічкая група апазіцыянераў". Сваю рашучую нязгоду з кіраўніцтвам "Нямецкай хвалі" мы выказалі ў заяве "Пашырэнне беларускай мовы ў міжнародным эфіры спрыяе дэмакратызацыі Беларусі". Наша задача – абараняць дзяржаўныя інтарэсы краіны, і я прапаную працягваць збор подпісаў, каб даказаць, што мы прадстаўляем народ, а не групу нейкіх маргіналаў.

Наш досвед сведчыць, што станоўчы вынік даюць менавіта калектыўныя звароты ў тую ці іншую інстанцыю. Напрыклад, у Амбасаду Польшчы па пытанні захавання беластоцкай газеты "Ніва", на Беларускую чыгунку, пасля чаго родная мова загучала ў электрацягніках; да кіраўніцтва кампаніі Мабільныя ТэлеСістэмы, якая пасля нашай атакі стварыла беларускую версію афіцыйнага сайта і плануе вывучыць магчымасці распрацоўкі аўтаматычнай службы сервісу абанентаў на беларускай мове. Гадамі мы не пакідаем у спакоі Беларускае тэлебачанне. І варта адзначыць, што апошнім часам часцей пачалі пракідацца перадачы, дзе ёсць месца беларускаму слову. Старшыня ТБМ быў запрошаны каналам СТБ, дзе выступіў з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы. У сакавіку гэтага года мы атрымалі ліст з Міністэрства інфармацыі, у якім пералічаныя перадачы на беларускай мове, што ідуць на першым канале: "Існасць", "Адкрыты архіў", "Вялікая энцыклапедыя Беларусі", "Падарожжа дылетанта", "Спявай душа", "Прагноз надвор'я". На тэлеканале "Лад" не менш за 50 % праграм вядзецца на беларускай мове: выпускі навін, тэлеперадачы "Наша спадчына", "Калыханка", "Плошча мастацтваў", мастацкія стужкі і нарысы французскага канала. На канале СТБ родная мова складае 10 % ад агульнага вяшчання. У планах на 2005 г. – павялічыць аб'ём вяшчання на беларускай мове да 20 %. Неўзабаве з'явіцца беларускамоўнай музычны тэлеканал (MTV).

У полі зроку нашай дзейнасці бядотны стан, у якім апынулася беларуская мова. Давайце параімся, як змагацца, як абараніць духоўны скарб народа ва ўмовах, калі ў краіне правяць баль людзі, якія праводзяць русіфікатарскую палітыку. Паслядоўнікі Мураўёва-вешацеля, яны душаць родную мову беларуса, пачынаючы з дзіцячага садка да ВНУ. Калі ў 1994 – 1995 навучальным годзе сярэднюю адукацыю па беларуску атрымлівалі 616614 вучняў (40,7 %), то ў 2004 – 2005 – 301250, што складае 23,8 % ад агульнай колькасці навучэнцаў. Гэта ўжо рэальная пагроза. Паводле высноваў ЮНЕСКА, калі гэта лічба складае 33 %, лічыцца, што мова знаходзіцца на мяжы знікнення.

Што рабіць? Наша пазіцыя – супраціўляцца і працаваць. Цягам 2-х гадоў Таварыства дамагаецца ад улады зменаў ў "Закон аб мовах". Дзеля гэтага яшчэ ў 2003 г. былі распрацаваныя і дасланыя ў законатворчыя органы прапановы ў праект Закона. Мы атрымалі шэраг лістоў, у тым ліку з Нацыянальнага цэнтра законапректнай дзейнасці пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага сходу Палаты прадстаўнікоў Беларусі, у якіх паведамляецца аб тым, што нашы прапановы па ўдасканаленні прававога рэгулявання ўжывання беларускай і рускай моў у розных сферах грамадскага жыцця будуць улічаны пры падрыхтоўцы праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь", "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". На жаль, праект закона, падрыхтаваны камісіяй, да гэтага часу не быў ўнесены ў парадак дня сесіі ні ўвосень 2003 г., ні ў 2004 годзе. На нашу просьбу даслаць праект закона для азнаямлення нам адказалі, што ён не прайшоў працэдуры ўзгаднення і па гэтай прычыне не можа быць накіраваны Таварыству. А яго абмеркаванне плануецца ў 2005 годзе.





У сувязі з тым, што пасля выбараў 17 кастрычніка да працы прыступіў новы склад дэпутатаў, былі накіраваны персанальныя лісты тым асобам, якія, на наш погляд, могуць падтрымаць прапановы Таварыства пры абмеркаванні законапраекта. Прыемнай неспадзяванкай для нас быў ліст Канстытуцыйнага Суду, накіраваны ў Палату прадстаўнікоў амаль адначасна з нашымі. У гэтым лісце Канстытуцыйны суд нагадвае, што ў сувязі з новым складам Палаты прадстаўнікоў, ён паўторна дасылае сваё рашэнне ад 4.12.2003 г. з прапановай аб неабходнасці ўдасканальвання Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" з мэтай прыняцця на заканадаўчым ўзроўні мер па забеспячэнні роўнасці дзяржаўных моў — беларускай і рускай.

У студзені 2005 года мы атрымалі чарговы ліст за подпісам старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навукова-тэхнічнаму прагрэсу, у якім паведамлялася, што законапраект разглядаецца на ўзроўні старшыні Палаты прадстаўнікоў У. Канаплёва і ніякіх затрымак з яго разглядам і прыняццем не будзе. На жаль, і на сёння гэтая абяцанка не спраўдзілася. Нягледзячы на нашыя звароты, цалкам не выконваецца органамі народнай асветы Пастанова Міндукацыі № 48 (2001 г.) "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі". Яскравае сведчанне гэтаму імкліве скарачэнне беларускамоўнага навучання, здзек з тых, хто цаною свайго здароўя дамагаецца, каб даць дзіцяці адукацыю на роднай мове. Прыкладам ахвярнага змагання за свае канстытуцыйныя правы з'яўляецца сям'я старшыні Жодзінскай гарадской арганізацыі ТБМ, сябра Рады Аляксея Лапіцкага, якая нарэшце атрымала перамогу.

Што было той апошняй кропляй, якая паставіла кропку ў канфліктнай сітуацыі сям'і з мясцовай уладай, складаць цяжка, бо барацьба працягвалася не дзень і не месяц. Дзевяцігадовы хлопчык Янка мінулы навучальны год не наведваў школу. Апошнім перад перамогай крокам з нашага боку быў ліст на імя старшыні Менскага аблвыканкама сп. Дамашкевіча. Пасля гэтага звароту пытанне з навучаннем Янкі было вырашана станоўча. Але якіх высілкаў каштавала гэтая барацьба? Хто адкажа за такое самаўпраўства?

Аналізуючы сітуацыю, у чарговы раз мы прыходзім да высновы, што вышэйшая школа павінна быць беларускамоўнай. У адваротным выпадку справы будуць пагаршацца. Бо народ пастаўлены на калені перад гвалтам. Мова нідзе не запатрабаваная. Няма выбару, няма роўнасці 2-юх дзяржаўных моў. З гэтым мы не павінны змірыцца, і я прапаную ўзнавіць збор подпісаў з патрабаваннем стварэння БНУ, пачаты яшчэ ў 1996 годзе. Галоўнае – не апускаць рукі, дзейнічаць згодна з існым заканадаўствам і быць гатовым да таго, што ў сённяшняй сітуацыі не трэба спадзявацца на хуткі поспех, працаваць спакойна і мэтанакіравана, мацаваць свой дух у пераадольванні цяжкасцяў.

Па магчымасці мы рэагуем на ўсе праявы наступу на беларушчыну. Вы бачыце, што "Наша слова" друкуе частку ліставання з уладнымі структурамі. На ўсе запыты мы, як правіла, своечасова атрымліваем адказ. Цікава, што калі Менскі аблвыканкам сканяўся з адказам на 1 дзень, ліст прывезлі непасрэдна ў Таварыства. І толькі 1 наш ліст, які мы разаслалі ў 9 адрасоў, застаўся без адказу. Што ж гэта за ліст? Мы звярнуліся ў Адміністрацыю Прэзідэнта, Палату прадстаўнікоў, Камісію па справах ЮНЕСКА, Міністэрствы інфармацыі і адукацыі, Канстытуцыйны Суд, Акадэмію навук, БДУ, Дзяржтэлерадыёкампанію з прапановай прыняць удзел у "круглым" стале "Стан мовы тытульнай нацыі ў святле майскага рэферэндуму 1995 года".

За справаздачны перыяд праведзена 5 пасяджэнняў Рады і 32 Сакратарыяту, на якіх прымаліся наступныя дакументы: зварот "Моладзь за беларускую мову", заява ў абарону "Рэгіянальнай газеты" і беластоцкай "Нівы", зварот да жыхароў Менска і кіраўніцтва сталіцы аб падтрымцы грамадзянскай ініцыятывы па зборы подпісаў за захаванне імя Францішка Скарыны ў назве галоўнага праспекта, з нагоды Міжнароднага дня мовы - зварот да суайчыннікаў "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай..."; зварот да дэпутатаў і кіраўніцтва Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" патрабуе зменаў", "З роднай мовай па жыцці" – напярэдадні тэставання, "Навуковаму культурна-асветніцкаму цэнтру імя Ф. Скарыны пагражае ліквідацыя", "Бярозка ў небяспецы", "Абаронім Дом літаратара", "10 гадоў няспыннага змагання" – зварот да 10-годдзя рэферэндума 1995 г.

Мы надаем вялікую ролю асветніцкай працы. Ужо другі год паспяхова працуе бясплатны гістарычны семінар, дзе слухачы, бальшыня – моладзь, маюць шчасце чуць праўдзівую гісторыю з вуснаў такіх шаноўных вядоўцаў як Анатоль Грыцкевіч, Уладзімір Арлоў, Вольга Іпатава, Захар Шыбека. Сёлета ў рамках семінара выступаюць таксама Віктар Скарабагатаў, Аляксей Марачкін і іншыя спецыялісты.

З мэтай пашырэння беларускай мовы на спажывецкім рынку сябрамі Сакратарыята па просьбе Дзяржстандарту быў выкананы вялікі аб'ём працы па перакладу Стандартаў на харчовыя і прамысловыя тавары. Аднак ані наша дабрачынная праца, ані збор подпісаў пад зваротам з патрабаваннем выкарыстання роднай мовы на беларускім рынку жаданага выніку не далі. Не дапамагло і тое, што Канстытуцыйны Суд Беларусі паведаміў Камітэту па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі аб тым, што для забеспячэння роўнага статусу дзвюх дзяржаўных моў, гарантаванага артыкулам 17 Канстытуцыі РБ, – інфармацыя для грамадзян на тварах павінна давадзіцца на беларускай і рускай мовах. Аднак некаторыя айчынныя таваравытворцы адгукаліся на нашыя прапановы. Напрыклад, мінскія хлебазаводы і асабліва хлебазавод №2, лікёра-гарэлачныя заводы і г. д.

Але нягледзячы на тое, што Дзяржстандарт не прыняў рашэння аб абавязковым выкарыстанні дзвюх моў, з кожным днём усё часцей сустракаецца роднае слова на этыкетках харчовых тавараў як айчынных, так і замежнай вытворчасці. А якія назвы!? Узяць хаця б толькі хлеб – Нарачанскі, Віленскі, Траецкі, Радзівілаўскі, Старажоўскі, Дабрадзей, Мальва. Тут шмат залежыць ад саміх вытворцаў і ад уплыву прадпрыемстваў суседняй Расіі (асабліва Смаленшчыны і Браншчыны), замежных фірмаў якія даюць інфармацыю на харчовыя тавары, у тым ліку і па-беларуску. А Украіна пастаўляе нам нітрагліцэрыну – сардэчныя лекі, дзе на упакоўцы прысутнічае выключна беларуская мова.

Па просьбе прадпрыемстваў сябрамі Сакратарыяту (Гуркоў, Курчкоў, Марачкіна) зроблены пераклады на беларускую мову інфармацыі на тавары для Свярдлоўскага хлебамакароннага камбіната, што ў Расіі; СТДА "Голд Стрым" СЭЗ "Гроднаінвест"; кандытарскай фабрыкі "Слодыч", а таксама для транспартнай групы "Белсісгруп"; інфармацыі для пасажыраў метро і чыгункі. Мы аказалі дапамогу ў перакладах рускіх тэкстаў вытворцам пральнага парашку, царкве ў гонар абраза Божай маці "Неўпіваемая Чаша" і іншым.

Шаноўны Сход! Якой бы складанай не была ў нашым уяўленні сённяшняя сітуацыя з мовай тытульнай нацыі, мы павінны заўважаць тыя пазітыўныя зрухі, тыя змены, якія выспяваюць у грамадстве. Бальшыня моладзі пры тэставанні аддаюць перавагу беларускай мове, хоць і вучацца ў асноўным у рускамоўнай школе. Змянілася стаўленне да беларускай мовы. Яе можна пачуць у студэнцкіх асяродках, сталічным метро, на Беларускай чыгунцы. Беларускую мову пачалі выкарыстоўваць амбасады, прадпрыемствы, замежныя і айчынныя фірмы ў сваёй рэкламе: "Крыніца", завод "Гарызонт", "Страўня "Талака", "Галіна Бланка", "Нестле", "Самсунг", "Бош", "Адзідас", "Філіпс". Змяніўся імідж нашай мовы. Цяпер носьбіт яе не толькі вясковае насельніцтва, але і эліта нацыі - высокаадукаваныя людзі, нацыянальна свядомае гарадское насельніцтва. У продажы з'явіліся віншавальныя паштоўкі "З Калядамі", "Са святам Божага нараджэння". І прыемна, што на ўсім гэтым ёсць часцінка нашай з вамі працы, да якой усе мы ў большай ці меншай ступені былі далучаныя. Прыемна адзначыць, што нягледзячы на ўціск з боку ўладных структураў сярод нас – актыўныя і бясстрашныя змагары за нацыянальную ідэю. Назаву толькі некаторыя арганізацыі: Баранавіцкая гарадская (ст. В. Сырыца), Светлагорская (ст. Т. Маслюкоў), Віцебская абласная (ст. Іосіф Навумчык), Асіповіцкая раённая (ст. Т. Барэль), Гарадзенская абласная і гарадская (ст. А. Місцюкевіч і А. Пяткевіч), Лідская гарадская і раённая (ст. С. Суднік, Л. Анацка), Шаркаўшчынская раённая (ст. А. Райчонак)., ТБМ Віленскага краю (ст. Юры Гіль), Іркуцкае культурна-асветніцкае Таварыства (ст. Алег Рудакоў), Слуцкая (ст. М. Курыльчык), Ленінская г. Менска (ст. Т. Грузнова), Фрунзенская г. Менска (ст. В. Чэчат), Заслаўская (ст. Т. Трубач), Вілейская раённая (ст. М. Сусла), Чэрыкаўская суполка (ст. М. Шчэрбіч). Не буду займаць Ваш час доўгім пералікам. Папрашу толькі адно – занатоўвайце праведзеныя мерапрыемствы і паведамляйце пра гэта ў Сакратарыят. Пішыце пра сваю дзейнасць у "Наша слова". Гэта наша гісторыя, і ніхто за нас яе не напіша.

Хачу выказаць шчырую ўдзячнасць нашым сябрам, якія стала падтрымліваюць ТБМ матэрыяльна. Гэта Васіль Петруковіч, Фелікс Шкірманкоў, Антон Фурс, Марыя Сафро, Анатоль Скрэчка, Надзея Барт-Юрэвіч, Валер Палсцюк, Іна Казлоўская, Пётр Краўчанка, Уладзімір Цярохін, Антон Сабалеўскі, Вольга Іпатава, Павел Чайкоўскі, Алена Міхалюк, Алесь Долбік, Хадоскін-Ігнацікаў, Алесь Рымша, Мікола Валошчык, Міхась Тычына, Івонка Сурвіла, Алена і Мікола Сенькі, Раіса Жук-Грышкевіч, Георгі Штыхаў, Георгі Мішчук, Надзея Кулевіч і іншыя.

На гэтым дазвольце скончыць маё выступленне і перадаць слова намеснікам, старшыні Рэвізійнай камісіі і галоўнаму рэдактару "Нашага слова".

*Дэлегат з'езду*

# "Калі разам, то поспех будзе"

**Аляксандр Місцюкевіч гаворыць разважліва, з роздумам. Тыя, хто знаёмы з ім, ведаюць, што гэта — чалавек справы. Сказаў – як звязаў. Пра давер і павагу сведчыць неаднаразовае абранне яго старшынёй Гарадзенскага абласнога гарадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".**



Здавалася б, справай адраджэння роднай мовы павінны найперш займацца людзі з філалагічнай адукацыяй. Запісы ў працоўнай кніжцы Аляксандра Іванавіча сведчаць, што працаваў электраманцёрам. Пасля службы ў арміі закончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, дзе атрымаў спецыяльнасць энергетыка. Затым былі пасады майстра, прараба, інжынера, намесніка начальніка аддзела капітальнага будавання, намесніка дырэктара філіялу вучэбнага цэнтра РУП "Гроднаэнерга". У гэтым прадпрыемстве служыў 30 гадоў, да выхаду на пенсію.

Што да роднай мовы, то тут адным сказам не абмяжуешся. Слонімшчына, у прыватнасці вёска Піронім, дзе нарадзіўся, дапамаглі адчуць непаўторную прыгажосць матчынага слова. Уласная зацікаўленасць прывяла да беларускай кнігі. Захапіўся творчасцю літаратараў роднай зямлі – Янкі Брыля, Аляксея Карпюка, паэтаў Вольгі Іпатавай, Дануты Бічэль-Загнетавай, Алега Лойкі, Анатоля Іверса...

Шанцавала, што побач аказаліся людзі, якія размаўлялі па-беларуску на рабоце, у вольны час. Калі родная мова стала адзінай дзяржаўнай, то гэты факт надаў новую сілу і моц.

Цяпер родная мова не ў павазе. Гэта мякка кажучы. Нібыта ёсць Канстытуцыя, але на практыцы няма роўнасці ў карыстанні дзяржаўнымі мовамі, абяцанай Асноўным Законам. Дзяржаўныя чыноўнікам даводзяць сваё: кожны мае права выбару мовы зносін. У Гародні няма ніводнай школы на роднай мове, беларускамоўных падрыхтоўчых класаў? І зноў чуем: бацькі выбіраюць рускую мову для сваіх дзяцей. Маўляў, хіба можна вучыць матэматыку, батаніку ці геаграфію па-беларуску?

Аднак чаму гэтыя прадметы можна вучыць на літоўскай, польскай, латышскай, эстонскай і іншых мовах свету? Маўчаць суразмоўцы, пацiскаюць плячыма...

Аднак ёсць рацыя ў словах апанентаў. Пасля заканчэння школы выпускнік не можа працягваць навучанне па-беларуску. Няма ў Беларусі нацыянальных універсітэтаў, інстытутаў, тэхнікумаў, вучэльняў. Чаму гэта так? У гарвыканкаме адбыўся абмен думкамі з намеснікам старшыні. Пакуль што ўзяты таймаўт. Бакі рыхтуюцца да чарговай размовы пра стварэнне ў Гародні беларускамоўнай школы...

Аляксандр Місцюкевіч добра ведае, у які бок адчыняюцца дзверы кабінетаў у многіх дзяржаўных установах. Няма, відаць, у Гародні высокай службовай асобы, да якой ён не завітаў разам са сваімі паплечнікамі. Тут кіраўнікі вобласці і горада, начальнікі структурных падраздзяленняў, прадпрыемстваў і ўстаноў.

Больш, зразумела, чуў абяцанак-цацанак, але нешта і зроблена. У гэтым месяцы ў тралейбусах Гародні аб'явы аб прыпынках пачалі гучаць па-беларуску. У іншых банкаўскіх аддзяленнях стала магчымым аформіць дамову з кліентамі на роднай мове. Аказваецца, існуе адпаведная праграма на дзяржаўным узроўні. Аднак яе рэалізацыяй у рэгіёне чамусьці заклапочаны актывісты ТБМ, а не кіраўніцтва банкаў.

Аляксандр Іванавіч імкнецца засяродзіць на моўнай праблеме ўвагу лідараў няўрадавых арганізацый горада і вобласці. Найперш, звяртаецца да блізкіх па мэтах і задачах НДА. Цяпер пасяджэнні рады ТБМ вобласці часцяком праходзяць з удзелам прадстаўнікоў Таварыства Беларускай Школы, Фонду імя Льва Сапегі, гісторыка-культурнага клуба "Паходня", Таварыства беларускай вышэйшай школы.

— Трэба акцэнтаваць усе сілы ў адным кірунку, тады поспех будзе, — упэўнены Аляксандр Іванавіч. – Практыка паказвае, што такая тактыка правільная. Напрыклад, актыўна распаўсюджваецца беларускамоўная камп'ютарная праграма, беларускамоўны электронны слоўнік.

Вяртанне роднай мовы ў шырокі ўжытак немагчыма без далучэння да матчынага слова моладзі. Склалася традыцыя сустракацца з ўдзельнікамі гарадскіх і абласных алімпіяд і конкурсаў па беларускай мове і літаратуры. Пераможцам уручаюцца падарункі – кнігі. Многія вучні старэйшых класаў і студэнты запрашаюцца на вечарыны, падрыхтаваныя ТБМ. Цяпер рыхтуецца вечар памяці Уладзіміра Караткевіча, прымеркаваная да 75-годдзя з дня яго нараджэння. Пісьменнік не раз быў у Гародні і вобласці. Ёсць людзі, якія сустракаліся з ім. Яны падзеляцца ўспамінамі.

Так дзень пры дні выконвае свой грамадзянскі абавязак Аляксандр Місцюкевіч. Пра абавязак можна было б і не гаварыць. Бо працуе старшыня абласной арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны па закліку сэрца і перакананню, што беларуская мова рана ці позна зойме сваё пачэснае месца ў беларускай краіне.

***Антон Лабовіч, Гародня.***

***На здымку:*** *А.І.Місцюкевіч. Фота аўтара.*

*Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь*

# Аб сучасным становішчы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь

Беларуская мова - нацыянальная мова беларусаў і тытульная мова Рэспублікі Беларусь - прайшла складаны шлях гістарычнага развіцця. на якім зведала і перыяды росквіту, і перыяды заняпаду. Аднак заўсёды яна заставалася і застаецца сёння важнейшым элементам беларускай нацыянальнай культуры. сродкам зносін і сімвалам нацыянальнай свядомасці беларускага народу.

У XXI стагоддзе беларуская мова ўступіла як дзяржаўная мова Беларусі, як высокаразвітая літаратурная мова, якая паспяхова абслугоўвае ўсе камунікатыўныя патрэбы беларускага грамадства. Сучаснае становішча беларускай мовы, асаблівасці яе функцыянавання ў грамадстве абумоўлены, галоўным чынам, яе развіццём ва ўмовах блізкароднаснага двухмоўя, канкурэнцыі з рускай мовай, якая таксама з'яўляецца дзяржаўнай мовай Беларусі. Працэс пашырэння ўжытку беларускай мовы адбываецца ў гэты час у розных галінах жыцця грамадства, перш за ўсё, у сістэме адукацыі, галіне культуры СМІ і іншых.

Канстытуцыя Беларусі і Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" прадастаўляе грамадзянам краіны права выбару мовы навучання і выхавання. Дзеля забеспячэння гэтага права ў Беларусі дзейнічаюць установы агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай, рускай і дзвюма (беларускай і рускай) мовамі навучання. У гэты час амаль 60 працэнтаў усіх устаноў агульнай сярэдняй адукацыі, якіх у Беларусі больш за 4000, ажыццяўляюць навучальны працэс на беларускай мове, 33 працэнты - на рускай і каля 7 працэнтаў на абедзвюх мовах. На беларускай мове ажыццяўляецца выхаваўчы працэс у больш як 40 працэнтах дашкольных устаноў краіны. Акрамя таго, больш за 75 працэнтаў дашкольных устаноў з іх агульнай колькасці вядуць працу поўнасцю на беларускай мове ў асобных дзіцячых групах па выбары бацькоў.

Большасць агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучання функцыяніруе ў гэты час у сельскай мясцовасці - больш за 80 працэнтаў ад агульнай колькасці беларускамоўных школ. Разам з тым. з канца мінулага стагоддзя назіраецца тэндэнцыя паступовага павелічэння іх колькасці ў гарадах Беларусі: з 2000 года агульны лік такіх установ у гарадах краіны павялічыўся ў два разы.

Незалежна ад таго. на якой з дзяржаўных моў ажыццяўляецца навучальны працэс у агульнаадукацыйных установах, шэраг дысцыплін выкладаецца выключна на беларускай мове, у тым ліку прадметы па гісторыі і геаграфіі Беларусі. Акрамя таго, усе выпускнікі базавай школы трымаюць у якасці абавязковага экзамен па беларускай мове, выпускнікі сярэдняй школы - на выбар па адной з дзяржаўных моў. У Беларусі забяспечваецца раўнапраўе пры выбары мовы навучання і выхавання для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Навучанне такіх дзяцей ва ўстановах. якія забяспечваюць атрыманне спецыяльнай адукацыі, ажыццяўляецца на беларускай і рускай мовах з улікам пажадання бацькоў. У вучэбным плане гэтых устаноў адводзіцца аднолькавая колькасць гадзін на выкладанне абедзвюх дзяржаўных моў. Беларуская мова займае належнае месца ў сістэме вышэйшай адукацыі Беларусі. На сённяшні дзень у вышэйшых навучальных установах краіны існуюць створаныя па выбару студэнтаў беларускамоўныя плыні, аддзяленні, вучэбныя групы. Яны дзейнічаюць, у прыватнасці. у такіх буйных установах вышэйшай адукацыі як Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт, Менскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт і іншыя. У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М. Танка на беларускай мове навучаюцца ў гэты час звыш 3000 студэнтаў. 1200 навучэнцаў атрымліваюць адукацыю на беларускай мове ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. Пашырэнне ўжытку беларускай мовы назіраецца і ў галіне культуры. Значную ролю ў гэтым працэсе адыгрываюць дзяржаўныя музеі краіны. Дзякуючы сваёй значнай колькасці (133) і шырокай геаграфічнай распаўсюджанасці (каля 60 філіялаў) дзяржаўныя музеі аказваюць вялікі ўплыў на папулярызацыю нацыянальнай мовы праз экскурсіі, навукова-асветніцкія мерапрыемствы, экспазіцыйныя тэксты. Так, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры ажыццяўляе дакументаванне літаратурнага працэсу на Беларусі ў шырокім гістарычным кантэксце: ад часоў узнікнення пісьменства да сённяшніх дзён. Вынікам такой працы з'яўляецца фармаванне унікальных калекцый рукапісаў. рэдкіх кніг, фотаздымкаў, дакументаў беларускіх пісьменнікаў, што мае вялікае значэнне для захавання гістарычнай і культурнай спадчыны Беларусі. Значную ролю ў працэсе пашырэння выкарыстання беларускай мовы адыгрывае Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Адным з прыярытэтных кірункаў яе функцыянавання з'яўляецца фармаванне вычарпальна поўнай калекцыі нацыянальнага дакумента. Спецыялісты бібліятэкі рыхтуюць навуковыя, інфармацыйныя, бібліяграфічныя і метадычныя выданні, якія раскрываюць багатую спадчыну беларускіх вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва, а таксама знаёмяць з новай беларускай літаратурай. Напачатак 2005 года фонд нацыянальных дакументаў, які змешчаны ў галоўнай бібліятэцы краіны, склаў звыш 450 тысяч адзінак захоўвання.

Дзеля садзейнічання пашырэнню сферы выкарыстання беларускай мовы, папулярызацыі твораў беларускай літаратурнай класікі Нацыянальнай бібліятэкай краіны сумесна з ЮНЕСКА ў 2004 годзе быў створаны кампакт-дыск "Літаратурная спадчына Беларусі: XI - сярэдзіна XX стагоддзяў", на якім змешчаны 1400 літаратурных твораў 91 аўтара. Нацыянальная мова актыўна выкарыстоўваецца беларускімі кінематаграфістамі. Паступовa павялічваецца колькасць кінастужак, што здымаюцца на беларускай мове.

Беларуская мова актыўна выкарыстоўваецца ў сродках масавай інфармацыі краіны. Зараз большасць з перыядычных выданняў. якія атрымліваюць субсідыі з дзяржаўнага бюджэту. з'яўляюцца беларускамоўнымі. Сярод іх грамадска-палітычныя, літаратурна-мастацкія, навукова-метадычныя, культуралагічныя газеты і часопісы, а таксама выданні. якія накіраваны на маладзёжную і дзіцячую аўдыторыю. Беларуская мова актыўна выкарыстоўваецца ў эфіры тэле- і радыёвяшчання. На сённяшні дзень вяшчанне на нацыянальнай мове складае 80 працэнтаў на "Першым нацыянальным канале" Беларускага радыё, тэлеканале "Культура" і радыё "Сталіца". Беларускамоўныя праграмы займаюць значнае месца ў эфіры галоўных тэлеканалаў краіны. Шматлікія перадачы, у тым ліку гістарычныя, культурныя, дзіцячыя, выпускі навін і іншыя выходзяць сёння на беларускай мове. На ёй ажыццяўляецца і рэтрансляцыя шэрага праграм французскага тэлебачання, галоўным чынам мастацкія фільмы і тэматычныя нарысы. Беларуская мова распаўсюджана і функцыяніруе сёння на ўсёй тэрыторыі дзяржавы. Кожны грамадзянін Беларусі штодзённа атрымлівае інфармацыю на беларускай мове.

Беларуская мова адыгрывае ролю аднаго з найважнейшых фактараў нацыянальнай ідэнтыфікацыі: паводле апошняга перапісу насельніцтва. які адбыўся ў 1999 годзе, беларускую мову ў якасці роднай назвалі больш за 85 працэнтаў беларусаў. Гэта з'яўляецца відавочным сведчаннем іх атаясамлення з беларускім народам, яго культурай і гісторыяй.

*Гэтая інфармацыя была змешчана на сайце Міністэрства замежных спраў Беларусі. Рэдакцыя палічыла патрэбным давесці яе да ведама сваіх чытачоў.*

**Выстава на менскай сядзібе ТБМ.**

***Новыя ды рэдкія кнігі, слоўнікі, энцыклапедыі; фільмы ды музыка на СД і касетах у шырокім асартыменце прадстаўленыя на менскай сядзібе ТБМ (Румянцава, 13). З панядзелка па пятніцу ад 15-й да 19-й гадзіны наведвальнікі змогуць атрымаць у падарунак цікавыя беларускія газеты ды кнігі. Тэл. 8-029-707-40-01.***

# Ці ўжо гэтак век будзе?!



Я гляджу тэлевізію пераважна з васьмі гадзінаў вечара. І што заўважыў?

Беларуская мова ў гэты час цалкам знікае з экрана амаль усіх каналаў. Што ж да інфармацыйных праграмаў, яны ўсе, апрача "Ладу", скрозь рускамоўныя. І ствараецца ўражанне, ды што ствараецца, яно так і ёсць, беларуская мова з тэлевізійнага экрана выгнана. А тыя паасобныя беларускамоўныя перадачы сярод спрэс рускамоўных інфармацыйных здаюцца ўсяго-наўсяго разрознене́мі выспачкамі.

Прэзідэнт Беларусі ды і ўсе яго набліжаныя кажуць, што рускія пачуваюць сябе у Беларусі вельмі ўтульна. Усё ім тут суладна, сугучна. А ці спыталіся ў мяне, як пачуваю сябе я, які ўжо каторы год пазбаўлены ў вечаровы час глядзець беларускамоўныя інфармацыйныя выпускі, асветніцкія ці культаралагічныя праграмы?

Тое, што зараз называюць Беларускім тэлебачаннем, - гэта нешта пачварнае, чужое, гэтае ж самае можна сказаць пра першы нацыянальны канал. Наша роднае мова на гэтым так званым першым нацыянальным, рэдкі тосць

Зачапіла душу і сэрца і яшчэ адно.

На расійскую мову перайшлі нават тыя, хто яшчэ нядаўна паспяхова шчыраваў на роднай мове з пэўнай элегантнасцю. На пытанне: "Што сталася?" ад аднае некалі досыць паважанай мной асобы пачуў: "А што рабіць? Жыву адна. У мяне двое дзяцей..."

І ў гэтых словах безвыходнасць ідэалагічнага моўнага прэсінгу.

Разважаючы пра моўную сітуацыю на тэлевізіі, я думаю: "Беларусь атрымала суверэнітэт, незалежнасць. Але навошта ёй тая незалежнасць, калі яна не можа забяспечыць на тэлевізіі поўнакроўные існаванне мовы тытульнай нацыі?!

А можа гэта такая хітрая незалежнасць, каб праз яе механіку Беларусь моўна невеляваць?!

Але як там ні было, а родная мова на сённяшнім тэлебачанні -- падчарка. Гэты факт ніхто не можа аспрэчыць.

Няўжо гэта ўсталявалася ўжо назаўсёды? Хацелася, каб якраз пра гэта і пагаварылі дэлегаты на сваім чарговым з'ездзе.

***Уладзімір Содаль.***

# Няпроста быць беларусам

**Леанід Гаравы — дырэктар школы з 18-гадовым стажам, кіраўнік Гарадоцкай арганізацыі ТБМ, сябар Цэнтральнага камітэту БСДП "Грамада"—патрабуе ад Гарадоцкага раённага аддзелу адукацыі аднаўлення на працы і грашовай кампенсацыі.**

Былы дырэктар Вархоўскай базавай школы Леанід Гаравы, з якім аддзел адукацыі напярэдадні гэтага навучальнага году адмовіўся працягнуць кантракт, лічыць, што яго звольнілі незаконна. Ён звярнуўся ў раённы суд з тым, каб давесці, што былі парушаныя ягоныя правы як: паводле ЗАКОНУ "Аб статусе дэпутата мясцовага Савету"—, адміністрацыя мусіла атрымаць дазвол ад Гарадоцкага райсавету на тое, каб звольніць дэпутата Гаравога.

Між тым на мінулай сесіі райсавету гэтае пытанне не абмяркоўвалася. І пра тое, што такі дазвол атрыманы, але толькі ад прэзідыюму райсавету, суддзя Аляксандар Ляшковіч даведаўся толькі ад юрыста райвыканкаму Ірыны Дзям'яненкі, якая прадстаўляла на судзе інтарэсы аддзела адукацыі.

Пад кіраўніцтвам дырэктара Леаніда Гаравога базавая Вархоўская школа зрабілася адной з лепшых у раёне, пры што сведчаць перадусім прызавыя месцы вучняў на прадметных алімпіядах рознага узроўню. Аднак апанентка спадарыня Дзям'яненка прадставіла суду каля дзесятка дакументаў, якія мусілі б засведчыць няякасную працу дырэктара — ад заўвагі двухгадовае даўніны да медычнае даведкі пра тое, што ў некаторых вучняў Вархоўскай школы летась зафіксавана павялічэнне шчытападобнай залозы ды іншыя хваробы.

Прадстаўніца гарвыканкаму гаварыла на судзе, што звальненьне спадара Гаравога выклікана выключна ягонай непрафесійнасцю, хаця сам ён мае іншае меркаваньне.

**Гаравы:** "Мая школа мае станоўчую дынаміку працы, усе тыя заганы, што тут былі паказаныя, ёсць штучнымі. А звольнілі мяне за маю прынцыповую пазіцыю, за тое, што адстойваў свае правы ў судах."

Дагэтуль у раённы суд Леанід Гаравы звяртаўся, каб аспрэчыць неабгрунтаваныя, на ягоную думку, працоўныя вымовы, і нават спробу абвінаваціць яго ў дробным хуліганстве - у бойцы з загадчыкам аддзела адукацыі. Цяпер з дапамогаю суда ён хоча аднавіцца на працы. атрымаць сярэдні заробак за час вымушанага беспрацоўя, а таксама матэрыяльную кампенсацыю маральных стратаў у памеры 2 млн. руб.

На думку аднаго з ягоных грамадскіх прадстаўнікоў у судзе, сябра Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Уладзіміра Адынца, шанцаў выйграць гэты працэс даволі мала.

**Адынец:** "Тут цяжка казаць пра нейкія добрыя перспектывы, бо звальненне, на маю думку, мае відавочныя палітычныя падставы".

***Браніслава Станкевіч,***
*Віцебская вобласць.*



*Сяргей Дубавец*

# 13 памылак, якія робяць заходнія радыё- і тэлетранслятары пры выбары мовы вяшчання на Беларусь

***Паважаныя чытачы!***

*9 кастрычніка прагучала чарговая перадача Сяргея Дубаўцы на радыё "Свабода", у рубрыцы "Вострая брама". Яна ёсць водгук на спробу русіфікацыі Беларусі, якую пад лозунгам "дэмакратыі" распачала недаўна руская рэдакцыя радыёстанцыі "Нямецкая хваля". Кіраўнічка рускай рэдакцыі "Нямецкай хвалі" Карнелія Рабіц сваю пазіцыю выклала на старонках "Народнай волі" (№ 196, ад 8.X.2005 г.), прычым назва яе інтэрвію гучыць вельмі нацыянальна* ***"Русским языком сказано..."***

*Сяргей Дубавец даў грунтоўна адказ на яе пазіцыю.*
***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

У Вільні і Варшаве, у Брусэлі і Нью-Ёрку ідуць сёння дыскусіі пра Беларусь, пра патрэбу інфармацыйнага прарыву, пра стварэнне новых эфектыўных радыё- і тэлевізійных каналаў. Сапраўды, з усіх дзяржаўных медыяў беларусы атрымліваюць капітальна перакасабочаную карціну свайго ўласнага свету, у якім ёсць толькі адзін палітык, а астатнія - альбо падначаленыя яму міністры, якія асінавым лістом трапечуць перад камерай прэзідэнцкіх ТБ, альбо - безыменныя сексменшасці разам з унукамі паліцаяў, што пад дудку вераломнага Захаду жадаюць сваёй радзіме адно толькі вайны ды разбурэння. Словам, з дзяржаўных СМІ шырокім патокам ліецца прапагандысцкая істэрыя, замяшаная, дарэчы, груба і непрафесійна, што сведчыць пра штучнасць і нетрываласць гэтай самай дзяржаўнай ідэалогіі. Аднак і супрацьпаставіць гэтаму замоўчванню і хлусні ў такіх самых аб'ёмах няма чаго. У альтэрнатыўных крыніц - ці то заходніх радыёстанцыяў ці ўнутранай недзяржаўнай прэсы - зусім не масавая аўдыторыя. Вось і задумаліся ў Вільні і Варшаве, у Брусэлі і Нью-Ёрку над тым, як гэтую аўдыторыю павялічыць.

Ідэя, безумоўна, высакародная, бо альтэрнатыўная інфармацыя заўсёды карысная. І побач з крывым люстэркам, якім бы звыклым яно для вас ні было, варта мець іншае і раз-пораз зазіраць у яго, каб не страціць пачуццё рэальнасці і не зблытаць канчаткова праўду з хлуснёю, дабро са злом.

Але як павялічыць аўдыторыю незалежных СМІ? І тут зусім непрадказальна знайшлося рашэнне - трэба на Беларусь вяшчаць па-расейску. З усяго пачутага ў згаданых дыскусіях я ўрэшце зрабіў выснову, што ініцыятары расейскамоўнае дэмакратыі маюць пра беларускую сітуацыю памылковыя ўяўленні, і склаў рэестар гэтых памылак, якія і паспрабую пракаментаваць.

***1. Кажуць, у Беларусі большасць насельніцтва карыстаецца расейскай мовай.***

Гэта першая памылка, вынесеная з візуальных назіранняў за менскай вуліцай і той самай дзяржаўнай прапагандай. Насамрэч большасць людзей карыстаецца так званай "трасянкай", вулічным беларуска-расейскім сурагатам, які не з'яўляецца літаратурнай расейскай мовай і можа развівацца, як у расейскі, так і ў беларускі бок. Тым часам прафесійныя СМІ, якія гавораць і пішуць літаратурнай мовай, схіляюць слухача да выбару пэўнай культуры - беларускай або расейскай. У першым выпадку яны спрычыняюцца да аб'яднання народу, у другім - да трывіяльнай русіфікацыі.

***2. Беларусы аддаюць перавагу расейскай мове.***

Гэта няпраўда. Паводле апошняга перапісу 73,6 % насельніцтва краіны называюць роднай мовай беларускую, а 37,6 % кажуць, што гавораць па-беларуску дома. Беларуская нацыя зведала 200 гадоў русіфікатарскай палітыкі, фізічнае вынішчэнне сваіх правадыроў і жорсткі ўціск нацыянальнае самасвядомасці. У выніку сёння яна знаходзіцца за паўкроку ад таго, каб выглядаць гэтаксама давершана, як іншыя нацыі рэгіёну: палякі, літоўцы, чэхі... Але зрабіць гэтыя паўкроку самой ёй замінае цяперашні аўтарытарны рэжым, які працягвае савецкую палітыку русыфікацыі і ўціску беларускай мовы.

***3. Беларуская мова ў Беларусі не ўсім зразумелая.***

Роўна ў той ступені, у якой у Літве не ўсе разумеюць па-літоўску, у Брытаніі - па-ангельску, а ў Расеі - па-расейску. Гаворка ідзе пра тых, хто патрапляе жыць у сваім герметычным асяродку, адасоблена ад грамадскага жыцця, альбо пра прыезджых.

***4. Расейская мова прывядзе да дэмакратычных пераменаў.***

Не прывядзе, бо не аб'яднае нацыю. Пра гэта сведчаць падзеі пачатку 1990-х у Літве, дзе расейская мова была мовай інтэрфронту і савецкага войска, а літоўская - мовай дэмакратыі, і падзеі 2004 году ва Ўкраіне, дзе расейская была мовай Януковіча і стагнацыі, а ўкраінская -мовай майдану і Юшчанкі. Пра гэта сведчыць і тое, што беларусы 15 гадоў маюць доступ да розных дэмакратычных СМІ (ад ранейшага НТБ да "Эўраньюз", ад "Эха Масквы" да "Белорусской деловой газеты"), 99% якіх выдаюцца і вяшчаюць па-расейску, аднак, дэмакратычны і аб'яднаўчы тонус у грамадстве па-ранейшаму падае.

***5. Лепей расейскамоўнае вяшчанне, чым ніякага.***

Тут варта прыгадаць адну з клятваў Гіпакрата: не нашкодзь! Пытанне выбару мовы для Беларусі - гэта пытанне зместу, а не формы.

Беларускае грамадства сёння мае ў сабе два патэнцыялы развіцця: прасавецкі расейскамоўны, які напоўніцу выкарыстоўваецца аўтарытарным рэжымам, і нацыянальны беларускамоўны, які пакуль задзейнічаны мала. Працуючы па-расейску, заходнія СМІ ад пачатку не будуць скіраваныя ані да першага, ані да другога патэнцыялу. У гэтым сэнсе Лукашэнка справядліва заўважыў: "Няхай вяшчаюць, калі ім няма куды дзяваць грошы. Мы гэтага не баімся". У сітуацыі супрацьстаяння аўтарытарызму і дэмакратыі дзве мовы стануць знакамі гэтага супрацьстаяння. І праца расейскамоўных заходніх СМІ акажацца марнай, калі не шкоднай.

***6. Інфармацыя па-расейску будзе лепей засвойвацца.***

Гэта няпраўда, бо беларускі чалавек, натрапіўшы на заходнюю крыніцу па-расейску, будзе ўспрымаць яе, як звернутую да ўсіх і ні да каго канкрэтна, гэта значыць - не да сябе. На тое ёсць досвед Радыё Свабода. Людзі выразна падзяляюць - "беларуская Свабода" (гэта тая, што для нас і пра нас) і "расейская Свабода" (пра ўсё і для ўсіх). Калі дапусціць, што беларуская служба РС стане вяшчаць па-расейску, тады на фоне расейскай янаператворыцца ў радыё ні пра што і ні для кога.

***7. У Беларусі дзве дзяржаўныя мовы.***

- Толькі ў Канстытуцыі, але ніяк не на практыцы. Так званы "білінгвізм" з савецкіх часоў быў і застаецца галоўнай зброяй русіфікацыі і аўтарытарызму. Па-першае, ён дазваляе сходу забыцца пра існаванне "першай дзяржаўнай мовы" - беларускай. Па-другое, уяўляе з сябе эклектыку знакаў, як бы мову майдану перамяшаць з мовай стагнацыі, мову савецкіх танкаў - з мовай абаронцаў віленскай тэлевежы, мову аўтарытарызму з мовай дэмакратыі.

Мова ўдзельнікаў перадач можа быць і расейскай, і польскай, і ўкраінскай. Але мова самой службы, калі яна пазыцыянуецца як дэмакратычная, мусіць быць беларускай. Расейская мова або "білінгвізм" адштурхне самую актыўную частку грамадства.

***8. Беларуская мова абмяжоўвае аўдыторыю дэмакратычных СМІ.***

У адрозненне ад публікі, якая гаворыць беларуска-расейскім сурагатам, усе свядома беларускамоўныя - гэта найбольш актыўная частка грамадства, бо ім даводзіцца штодзённа адстойваць свае правы. Гэта значыць, што заходні СМІ па-расейску будзе ігнараваць іх, а яны яго. Між тым, якраз яны ўстануць на чале дэмакратычных пераменаў, як гэта і было ў Беларусі на мяжы 80-90-х гадоў мінулага стагоддзя, якраз ім, як маральнай большасці грамадства, мусіць быць адрасаваная праца СМІ.

Варта звярнуць увагу на папулярнасць беларускамоўнага сайту Радыё Свабода, каб пераканацца, што ім карыстаюцца ўсе, і ніколі ніякіх праблем з-за мовы не ўзнікала.

***9. Спачатку дэмакратыя, тады - беларуская мова.***

Але дэмакратыя - гэта абстракцыя для чалавека, які не ўсведамляе, хто ён, да якой супольнасці ён належыць і ў чым ягоныя правы чалавека (у тым ліку, дарэчы, і патаптанае рэжымам права на беларускую мову). Калі мы ўсяго толькі насельніцтва, якое толкам не ведае, ці ў сваёй яно краіне жыве ці на тэрыторыі, якую заўтра далучаць да Расеі, дык і паняткі свабоды, дэмакратыі, правоў чалавека для нас - пусты гук. Аўтарытарны кіраўнік удала выкарыстоўвае гэты падвешаны стан - за паўкроку ад насельніцтва да народу. Але варта нам адчуць сябе народам, як усё гэта напаўняецца рэальным зместам. І адзінае, што ўжо на знакавым узроўні дае нам адчуванне адзінства і таго, што мы разам - рэальная сіла, здольная змяніць сытуацыю - гэта беларуская мова.

***10. У Беларусі расейскамоўная будучыня.***

Сённяшні аўтарытарны рэжым на гэта і разлічвае, калі закрывае беларускія школы і выгнятае беларускую мову з дзяржаўных СМІ і з дзяржаўных кабінетаў. Але для абсалютнай большасці беларусаў беларуская мова - гэта бясцэнны скарб, на ёй створаныя ўсе вяршыні культуры, якія сведчаць пра беларусаў у свеце. Тым часам, за 200 гадоў палітыкі русіфікацыі мы не далі свету аніводнай выдатнай з'явы расейскай культуры, літаратуры ці гуманітарнай навукі. І нішто не паказвае на тое, што мы пературымся ў расейцаў - нават "са знакам якасці".

***11. За расейскую мову выступае беларуская моладзь.***

Насамрэч па ўсёй Беларусі няма ніводнае маладзёвае дэмакратычнае арганізацыі, якая б не гаварыла па-беларуску. У гэтым сэнсе моладзь шмат больш актыўная за калегаў з "дарослай апазіцыі", дзе хапае такіх, хто дазваляе сабе не ўмець гаварыць па-беларуску. Калі старэйшыя людзі асацыююць беларускую мову з вёскай, дык моладзь - з сучаснай музыкай і літаратурай, з еўрапейскім выбарам і свабодай.

Якую вы будзеце круціць музыку? - пытаюся я. - Расейскую? Але яе круцяць дзяржаўныя каналы. Замежная таксама даступная. Музыку забароненых беларускіх выканаўцаў? Але яна ўся без выключэння беларускамоўная. Падумайце, чаму так адбываецца, і якіх нам трэба песень...

***12. Беларуская мова не адыгрывае ў грамадстве ніякае ролі.***

Каб пераканацца ў адваротным, выйдзіце з прыяцелем у Менску на цэнтральны праспект і распачнеце больш-менш чутную размову па-беларуску. Калі вы - маладыя людзі, на вас зараз жа звернуць увагу мінакі і міліцыя. У вас праверацць дакументы, вас затрымаюць, вас перацягнуць дручком па спіне. Беларуская мова - гэта якраз найвялікшы раздражняльнік у беларускім грамадстве сёння і вялікая нескарыстаная сіла.

***13. Расейская мова падыме рэйтынг радыё і тэлеперадач.***

Гэта апошняя памылка ў маім спісе. Але адкажу на яе не адмаўленнем, а сцверджаннем. Так падымае, але не ў Беларусі, а ў Расеі.

Можа падняцца і ў нас. Але гэта спадзеў на расклад зорак у небе. Бо мы ведаем, што так бывае. Раптам зменіцца вецер, і тады ўсе прыпадаюць да радыёпрымачоў, прагна ловячы апошнія навіны. Але для гэтага мусіць адбыцца штосці незалежнае ад нас і што без нас, аднак, не адбудзецца ніколі.

Мне па-ранейшаму здаецца, што менавіта беларуская мова можа быць і будзе сцягам беларускай дэмакратыі. Голай дэмакратыі не бывае, і ніякага іншага сцяга няма. Урэшце, мы ж яшчэ ні разу толкам і не спрабавалі падняць гэты сцяг беларускае мовы, каб зараз чарговы раз адмаўляць ягоны мабілізацыйны ўплыву.

*www.svaboda.org.*

## ЛІДАР ЖОДЗІНСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ ПАРТЫІ БНФ І ТБМ А. ЛАПІЦКІ ЗВЯРНУЎСЯ Ў МІЛІЦЫЮ Ў СУВЯЗІ З АПАГАНЬВАННЕМ ЯГО КВАТЭРЫ

**Менск, 21 кастрычніка. Лідар жодзінскіх арганізацый грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ) і Партыі БНФ Алесь Лапіцкі звярнуўся ў міліцыю ў сувязі з апаганьваннем яго кватэры.**

У заяве на імя начальніка Жодзінскага гарадскога аддзела ўнутраных спраў Уладзіміра Шляхціна А.Лапіцкі паведамляе, што 18 кастрычніка ў 23.30 невядомы кінуў у яго акно ёмістасць, заліўшы акно чырвона-карычневай фарбай. На вуліцы Лапіцкі ўбачыў адзінокага незнаёмага чалавека. Як зазначаецца ў заяве, ён быў падобны на аднаго з членаў РНЕ (нефармальная праварадыкальная арганізацыя "Рускае нацыянальнае адзінства". — *БелаПАН.*), якіх у 2000 годзе Лапіцкі бачыў ля пад'езда свайго дома пасля падпалу ўваходных дзвярэй.

Жодзінскі актывіст расцэньвае інцыдэнт як "бандыцкі акт" з мэтай псіхалагічнага ўздзеяння на яго і членаў яго сям'і. Ён таксама зазначае, што гэта адбылося праз чатыры дні пасля апублікавання ў газеце "Народная воля" ад 14 кастрычніка пад рубрыкай "Перамога" артыкула "Янка будзе вучыцца па-беларуску". У ім апавядалася пра сына Лапіцкага, які пасля закрыцця беларускамоўнага класа ў жодзінскай гімназіі больш за год вымушаны быў вучыцца самастойна, а з 11 кастрычніка гэтага года працягнуў навучанне ў 4-м беларускамоўным класе Жодзінскай гімназіі № 1. Гэта стала магчымым дзякуючы намаганням бацькоў школьніка, якія дабіліся ад Міністэрства адукацыі адкрыцця беларускага класа для свайго сына.

У заяве ў міліцыю Лапіцкі таксама паведамляе, што з 2000 года прадстаўнікі мясцовых неафашысцкіх груповак неаднаразова заяўлялі пра сваю антыбеларускую пазіцыю рознымі злачыннымі спосабамі. Гэты былі надпісы з пагрозамі на дзвярах, зневажальныя выказванні па тэлефоне, факты гвалту і запужвання беларускамоўных актывістаў Жодзіна, падпалы ўваходных дзвярэй у іх дамах, а таксама нумароў недзяржаўных газет.

А. Лапіцкі просіць міліцыю зрабіць адпаведныя захады, каб прадухіліць "антыбеларускія прафашысцкія дзеянні з боку злачыннай групоўкі" супраць яго асабіста, яго сям'і і "членаў нацыянальна-дэмакратычных арганізацый" горада.

*Марат ГАРАВЫ,*
*БелаПАН.*



№ 41 (727) 26 КАСТРЫЧНІКА 2005 г. Наша слова

*Мікалай Крыўко*

# ЛЕТАПІС БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА

У канцы 2004 года ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла з друку кніга **"Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1986 – 1991"** (484 старонкі). У гісторыі беларускага мовазнаўства такога роду даведнік з'яўляецца пятым. Першым была кніга пад назвай "Бібліяграфічны ўказальнік літаратуры па беларускаму мовазнаўству", якая выйшла ў выдавецтве Белдзяржуніверсітэта ў 1960 годзе. адказным рэдактарам гэтага даведніка быў Л. М. Шакун, а складальнікамі – М. А. Жыдовіч, Я. М. Рамановіч, А. К. Юрэвіч. Першы паказальнік задумваўся як першая адносна невялікая частка паказальніка, што будзе складацца з трох выпускаў. У яго ўвайшлі 1864 пазіцыі мовазнаўчых прац ад самых ранніх і канчаючы працамі, якія выйшлі з друку ў 1958 годзе. У 1967 годзе ў зыдавецтве "Навука і тэхніка" выйшла другая кніга пад назвай "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны ўказальнік (1825-1965 гг.)". складальнікі – А. Д. Васілеўская, М. А. Жыдовіч, Я.М. Рамановіч, А. К. Юрэвіч; рэдактар –Л.М. Шакун. У гэты даведнік было ўключана 3514 пазіцый мовазнаўчых прац, што выйшлі з друку за 140 гадоў. Кніга "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік (1966-1975)" пабачыла свет у 1980 годзе ў выдавецтве "Навука і тэхніка". Складальнікі – А.Д. Васілеўская, Я. М. Рамановіч; навуковы рэдактар М.В. Бірыла. Яна аб'яднала 3320 прац. Чацвёртая кніга з гэтай серыі "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1976-1985" выдана ратапрынтным спосабам Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа НАН Беларусі ў 1993 годзе. Складальнікі гэтага даведніка – А.Д. Васілеўская і Я.М. Рамановіч, а навуковы рэдактар – А. І. Падлужны. Кніга змяшчае 4093 пазіцыі мовазнаўчых прац, што выйшлі з друку за пяць гадоў (1976-1985).

І вось перад намі апошняя, пятая, кніга "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1986-1991". Складальнікамі гэтага выдання з'яўляюцца А.У. Каратышэўская і А. У. Тацякова, а навуковым рэдактарам – В. П. Русак. Паказальнік змяшчае 3848 пазіцый мовазнаўчай літаратуры за 1986-1991 гады на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, нязначную колькасць матэрыялу на польскай, нямецкай і іншых замежных мовах. У працу ўключаны кнігі, артыкулы з серыйных выданняў і тэматычных зборнікаў, аўтарэфераты доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый, матэрыялы з'ездаў і канферэнцый, падручнікі, метадычныя дапаможнікі для вышэйшых навучальных устаноў. Немалую частку матэрыялу складаюць агульнамовазнаўчыя і славістычныя працы, у якіх у выглядзе асобных заўваг або зносак гаворыцца пра беларускую мову.

Гэты паказальнік сведчыць, што яго тэматычная схема папоўнілася новымі раздзеламі ці ранейшыя раздзелы падвергнуліся рэканструкцыі або ўдакладненню. Так напрыклад, раздзел "Праблемы паходжання і развіцця беларускай мовы і яе вывучэнне" папоўніўся падраздзеламі "Моўная палітыка", "Міжмоўныя кантакты" і "Глотагенез. Этнанімія". У раздзеле "Дыялекталогія Лінгвагеаграфія" аб'яднаціся раней самастойныя, але тэматычнае распаўсюджванне". Раздзел "Сучасная беларуская літаратурная мова" дапоўнены новым падраздзелам "Семантыка". У падраздзеле "Анамастыка" гэтага раздзела асобна вылучана "Урбанімія".

Кніга адкрываецца прадмовай "Ад складальнікаў" (сс. 3-5). Далей (сс.6-14) змешчаны артыкул "Вывучэнне беларускай мовы ў 1986 – 1991 гг.", напісаны навуковымі супрацоўнікамі інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі Ф. Д. Клімчуком і В.П. Русак.

Першым раздзелам бібліяграфічнага паказальніка з'яўляецца "Праблемы паходжання і развіцця беларускай мовы і яе вывучэнне" (счс. 15- 123). Ён мае наступныя падраздзелы: "Агульныя пытанні", "Сацыялінгвістыка. Двухмоўе. Псіхалінгвістыка", "Моўная палітыка", "Гісторыя даследавання беларускай мовы", "Работа навуковых устаноў у галіне беларускай мовы", "Навуковыя канферэнцыі, нарады, з'езды", "Perzonalya", "Міжмоўныя кантакты", "Глотагенез. Этнанімія". Другі раздзел паказальніка "Гісторыя беларускай мовы" (сс. 124-158) складаецца з падраздзелаў "Агульныя пытанні, "Фанетыка", "Акцэнталогія", "Графіка. Арфаграфія. Пунктуацыя", "Марфалогія і словаўтварэнне", "Сінтаксіс", "Лексікалогія і этымалогія", "Лексікаграфія". "Фразеалогія". Трэці раздзел кнігі "Беларускае мовазнаўства..." (2004) "Дыялекталогія. Лінгвагеаграфія" (сс. 159-202) мае падраздзелы "Агульныя пытанні", "Вывучэнне асобных дыялектаў і іх геаграфічнае распаўсюджанне", "Дыялектная лексікалогія", "Умоўныя мовы і жаргоны", "Лексікаграфія", "Фразеалогія", "Мова фальклору", "Этналінгвістыка". Чацвёрты раздзел бібліяграфічнага паказальніка "Гісторыя беларускай літаратурнай мовы" (сс. 203-230) складаецца з трох наступных падраздзелаў: "Агульныя пытанні", "Старажытны перыяд", "Новы перыяд". Апошні, пяты, раздзел даведніка "Сучасная беларуская літаратурная мова" (сс. 231-445) з'яўляецца самым вялікім у кнізе і мае такія падраздзелы: "Агульныя пытанні", "Фанетыка і фаналогія", "Марфалогія і словаўтварэнне", "Сінтаксіс", "Лексікалогія", "Лексікаграфія", "Анамастыка", "Фразеалогія", "Тэрміналогіяд. Тэрміналагічныя слоўнікі", "Стылістыка", "Культура мовы", "Мова асобных беларускіх пісьменнікаў", "Мова і стыль мастацкай літаратуры, перыядычных выданняў", "Пераклады", "Семантыка".

"Спіс выкарыстаных крыніц" (сс. 446-457) складаецца з трох частак: 1) тэматычныя зборнікі (іх у даведніку прыведзена 93); 2) часопісы і выданні, якія прыцягваюцца. Сярод іх такія, як "Беларуская лінгвістыка", "Беларуская мова", "Беларуская мова і літаратура ў школе", "Беларусь", "Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія" "Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук", "Вопросы культуры и искусства Белоруссии", "Вопросы языкознания" (Масква), "Вопросы литовского языкознания" (Вильнюс, 1986-1989), "Мовознавство" (Кіеў), "Культура мовы журналіста" (1986, 1988, 1990), "Полымя" і г.д.; 3) бібліяграфічныя паказальнікі (10 назваў).

Завяршае кнігу "Беларускае мовазнаўства..." (2004) імянны паказальнік (сс.458-481). У адрозненне ад папярэдніх бібліяграфічных паказальнікаў па беларускім мовазнаўстве гэты імянны паказальнік складаецца з дзвюх частак. Першая называецца "Імёны аўтараў, складальнікаў, рэдактараў, рэцэнзентаў і іншых асоб". Другая частка імяннога паказальніка мае назву "Персаналіі". Яна ўключае імёны тых асоб, пра якіх гаворыцца ў тэксце публікацый.

Кніга "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1986 – 1991" (2004) у адрозненне ад папярэдніх даведнікаў гэтай серыі выдадзена на высакаякаснай паперы, з бліскучымі глянцавымі вокладкамі. На першай вокладцы змешчаны фотаздымкі такіх слынных дзеячаў беларускага мавазнаўства і культуры наогул як Я.Ф. Карскі. І.І. Насовіч, Я.Ю. Лёсік, С.М. Некрашэвіч, В.Ю. Ластоўскі, І.В. Воўк-Левановіч, П.А. Бузук, Б.А. Тарашкевіч. На задняй вокладцы кнігі мы бачым фотаздымкі беларускіх мовазнаўцаў М.І. Каспяровіча, М.Р. Судніка, Ю.Ф. Мацкевіч, Ф.М. Янкоўскага. Н.Т. Вайтовіч, М.В. Бірылы, Л.М. Шакуна. П.П. Шубы. На жаль, гэтая кніга, у адрозненне ад папярэдніх бібліяграфічных паказальнікаў выдадзена малым тыражом – 300 экзэмпляраў (параўнайце, першы паказальнік быў выдадзены тыражом у 1000 экз., другі – 1100, трэці – 1000, а чацвёрты – 450 экз).

Бібліяграфічны паказальнік "Беларускае мовазнаўства" за 1986 – 1991 гады сведчыць, што за шэсць гэтых гадоў спецыялістамі-мовазнаўцамі і іншымі асобамі апублікавана прыкладна 3800 прац, у якіх вырашаны або закранаюцца розныя пытанні беларускай мовы ў той ці іншай меры ў 1986 – 1991 гадах, мелі дачыненне каля 1460 асоб. Як сведчыць дадзены паказальнік, найбольш плённа ў гэты час працавалі наступныя беларускія спецыялісты-мовазнаўцы: М.В. Абабурка. А.С. Аксамітаў, У.В. Анічэнка, Л.А. Антанюк. Г.У. Арашонкава. Т.П. Бандарэнка, А.Я. Баханькоў. М.В. Бірыла, М.Г. Булахаў, А.М. Булыка, Л.І. Бурак, Г.Ф. Вештарт, Л.Ц. Выгонная, Н.В. Гаўрош, І.К. Германовіч, А.П. Груца, В.А. Гуліцкая, З.П. Данільчык. А.І. Жураўскі, Р.М. Казлова. А.А. Каўрус, М.А. Корчыц, В.П. Красней, А.А. Крывіцкі, Т.В. Кузьмянкова. В.П. Лемцюгова, І.Я. Лепешаў, А.А. Лукашанец, В.У. Мартынаў, Ю.Ф. Мацкевіч, Г.М. Мезенка, А.Я. Міхневіч, А.І. Наркевіч, А.І. Падлужны, М.Р. Прыгодзіч. В.І. Рагаўцоў, А.Ф. Рогалеў, У.М. Свяжынскі, М.Р. Суднік, П.У. Сцяцко, Т.І. Тамашэвіч, Г.К. Усціновіч, Г.А. Г.К. Усціновіч, Г.А. Цыхун, Л.М. Шакун, П.П. Шуба. В.К. Шчэрбін, А.І. Яковіч, І.Я. Яшкін і некаторыя іншыя.

Кніга "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1986-1991" прызначаецца для навуковых работнікаў, выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, настаўнікаў, аспірантаў і студэнтаў-філолагаў, супрацоўнікаў бібліятэк і ўсіх тых, хто цікавіцца беларускай мовай, родным словам.

У спісе выкарыстаных крыніц гэтага даведніка прыведзена значная колькасць часопісаў і выданняў, якія прыцягваюцца. На вялікі жаль, у гэтым спісе адсутнічае такое спецыялізаванае выданне, як "Наша слова", якое пачало выходзіць з сакавіка 1990 года, спачатку як штомесячны бюлетэнь, з 1991 – як чатырохпалосны штотыднёвік, а з 1992 года – на васьмі палосах. У гэтым выданні, на той час орган рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, пачынаючы з яго першага нумара публікаваліся шматлікія мовазнаўчыя артыкулы або артыкулы, дзе ў той ці іншай меры закранаюцца праблемы беларускай мовы, змяшчаліся рэцэнзіі на мовазнаўчыя працы, лексіка-графічныя матэрыялы, артыкулы пра вядомых беларускіх мовазнаўцаў і г.д. У бібліяграфічным паказальніку "Беларускае мовазнаўства" за 1986 – 1991 гг. змешчана ўсяго толькі шэсць прац, якія друкаваліся на старонках "Нашага слова" у 1990 – 1991 гадах (гл. пазіцыі паказальніка 821, 1334, 2088, 2371, 2534 і 2927). Думаецца, укладальнікам наступнага бібліяграфічнага даведніка па беларускім мовазнаўстве трэба будзе вярнуцца да мовазнаўчых публікацый "Нашага слова" за 1990-1991 гг. і ўключыць іх як дадатковыя ў новы паказальнік і змяшчаць у ім і публікацыі. З "Нашага слова" наступных гадоў.

У даведніку "Беларускае мовазнаўства", які тут разглядаецца, прыводзяцца мовазнаўчыя працы ці працы, у якіх у пэўнай ступені закранаюцца пытанні беларускай мовы, змешчаныя ў многіх беларускіх газетах, хоць яны ў спісе выкарыстаных крыніц і не прыводзяцца ў паказальніку. Так, на старонках штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" за перыяд 1986-1991 гг. было змешчана такіх матэрыялаў 130 (для эканоміі і месца тут і далей не прыводзім спіс усіх пазіцый паказальніка, дзе змешчаны працы, што публікаваліся ў тым ці іншым перыядычным выданні; такія спісы па кожным выданні рэцэнзентам зроблены), у "Настаўніцкай газеце" – 85, у "Чырвонай змене" – 80, у газеце "Звязда" – 77, газеце "Голас Радзімы" – 33, у газеце "Советская Белоруссия" –27, у "Сельскай газеце" – 27, у "Знамени юности" – 23, у "Вячэрнім Мінску" – 19, у "Народнай газеце" – 11.

Цікава прасачыць, як беларускія абласныя газеты адгукаліся на мовазнаўчыя пытанні ў 1986 – 1991 гадах. Тут лідзіравала "Гомельская праўда" – 90 публікацый. Затым ішлі: "Гродненская правда" – 39, "Віцебскі рабочы" – 32, "Магілёўская праўда" – 23, брэсцкая абласная газета "Заря" – 13, "Мінская праўда" – 8.

Як сведчыць даведнік, што тут рэцэнзуецца, мовазнаўчыя матэрыялы публікаваліся таксама ў 1986 – 1991 гадах у многіх гаетах раённага маштабу, мясцовых, вячэрніх, ведамасных і інш. Прывядзём тут такія іх назвы: "Зара камунізму" (гл. пазіцыю 792), "Сцяг камунізму" (пазіцыя 804), "Сцяг Радзімы" (926), "Чырвоны сцяг" (1, 3390, 3449), "Ленинец" (3007), "Праца" (91), "Святло Кастрычніка" (1332), "Вячэрні Гомель" (3158, 3159), "Добры вечар" (270, 2961, 3077), "За передовую науку" (807, 814, 3102), "Зважай" (856), "Ладья" (859), "Парус" (3188) і інш.

Адлюстраваны ў даведніку "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1986-1991" і мовазнаўчыя публікацыі, што знайшлі месца ў 1986-19991 гг. на старонках такіх беларускіх часопісаў, як "Маладосць" (11 пазіцый), "Нёман" (9 пазіцый), "Политический собеседник" (11 пазіцый), "Коммунист Белоруссии" (4 пазіцыі), "Народная асвета" (9 пазіцый), "Мастацтва Беларусі" (1 пазіцыя), "Беларуская думка" (1 пазіцыя), "Крыніца" (1 пазіцыя), "Бярозка" (1 пазіцыя) і інш.

На старонках кнігі "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1986-1991" заўважаецца адсутнасць многіх мовазнаўчых прац, што былі апублікаваны ў абазначаны гэтым бібліяграфічным паказальнікам перыяд. Так, аўтар гэтай аглядавай публікацыі, М.Н. Крыўко, напрыклад, не знайшоў у даведніку з дзесятак сваіх прац. У пацвярджэнне гэтага прывядзём такія факты. На старонках бібліяграфічнага даведніка адсутнічае праца М.Н. Крыўко "Са словаўтварэння ацэначных назоўнікаў у беларускіх гаворках", змешчаная ў кнізе "Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: Тез. докл. 11 респ. конф". Часть 2. Гродно. 1986. с. 100-103, хоць работы іншых аўтараў, апублікаваныя ў гэтай кнізе, ёсць у бібліяграфічным даведніку, што тут разглядаецца (гл. напрыклад, пазіцыі 1482. 2361. 3845 і г.д.), рэцэнзія М.Н. Крыўко на кнігу П.П. Шубы "Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія" (Мінск. 1987) была змешчана ў "Весніку БДУ імя У.І. Леніна. Серыя 4. філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія". Мн., 1988. № 2. с.77-78. Мовазнаўчыя ж артыкулы гэтага нумара часопіса (аўтары артыкулаў І.Ф. Кратовіч, Соня Хайль, Г.А. Цыхун. У.Б. Журавель, У.І. Коваль – гл. пазіцыі ў бібліяграфічным даведніку: 3559, 1071, 514, 1006, 1544) у гэтым даведніку пададзены. Не прыведзены ў дадзеным паказальніку чамусьці і рэферат гэтай кнігі П.П. Шубы, падрыхтаваны М.Н. Крыўко і змешчаны ў кнізе "Научно-реферативный бюллетень. Отечественная литература", 1988, № 87-88. Змешчаны ў гэтым бюлетэні і яшчэ адзін рэферат М.Н. Крыўко – працы Г.Ф. Юрчанкі "Сучаснае народнае слова. З гаворкі Мсціслаўшчына. Слоўнік" (1988). Хоць у паказальніку, напрыклад, змешчаны рэферат Т.В. Кузьмянковай "Беларускай лінгвістыкі". Вып. 31 (гл. пазіцыю бібліяграфічнага даведніка 1929) і інш.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# РЫФМАВАНЫЯ ПРЫКАЗКІ

Прыказкі таму і жывуць у мове стагоддзямі, што амаль усе яны арыгінальныя сваёй ідэяй, зместам, абазначаюць важную, актуальную думку, вылучаюцца сэнсавай ёмістасцю пры лексічнай лаканічнасці. Але аднаго багатага зместу недастаткова. Выказ павінен быць убраны ў высокамастацкую форму, характарызавацца трапнасцю, выразнасцю, а досыць часта і вобразнасцю. Толькі ў такім разе, адначасова дзейнічаючы на свядомасць і пачуцці, выслоўе, створанае "ўзаемнымі сіламі гукаў і думкі" (Ф. Буслаеў), дасць "велізарную эканомію мыслення" і "эстэтычнае задавальненне" (К. Крапіва).

Амаль усе прыказкі задавальняюць гэтыя патрабаванні і з поўнай падставай лічацца мастацкімі мініяцюрамі. Абсалютная большасць прыказак належыць да алегарычных, з поўным ці частковым пераасэнсаваннем іх кампанентаў, з рэальным або нерэальным вобразам у іх аснове. Напрыклад: ***Бяздоннай бочкі не напоўніш***, што значыць "ніяк немагчыма накарміць, напаіць, задаволіць каго-небудзь". Многім прыказкам уласціва сюжэтная патэнцыяльнасць ***(Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю)***, рытм ***(Воўчы дух да лесу цягне)***, гукапіс (напрыклад, у прыказках ***Беражонага Бог беражэ***; ***Воран ворану вока не выдзеўбе*** усе паўназначныя словы пачынаюцца аднолькавым гукам), антытэзнае супрацьпастаўленне ***(Лепш горкая праўда, чым салодкая мана)***, сінтаксічны паралелізм ***(Воўк не пастух, а казёл не агароднік)***. Ёсць прыказкі-каламбуры, да прыкладу: ***Не падмажаш – не паедзеш; Зяць на парог – цешча за яйцы***.

У значэнні і афармленні ледзь не кожнай прыказкі ёсць хоць адна якаянебудзь прымета паэтычнага характару. А сотні прыказак вызначаюцца сукупнасцю некалькіх стылістычных прыёмаў. Так, прыказка ***Блізка відаць, ды далёка дыбаць*** (яе сэнс – *"не так лёгка дасягнуць таго, пра што марыць хто-небудзь"*) склалася ў выніку метафарычнага пераасэнсавання яе кампанентаў, грунтуецца на прыёмах сінтаксічнага паралелізму і антытэзнага супрацьпастаўлення; апрача таго, у ёй ёсць рыфма, рытм, гукапіс (да – ды – да – ды). Адносна мовы беларускіх прыказак К. Крапіва пісаў у 1972 годзе: *"Часам дзівіцца прыходзіцца, як гэта людзі, не чытаўшы ніякай паэтыкі, маглі дасягнуць такой высокай ступені вобразнасці".*

Далей гаворка пойдзе толькі пра рыфмаваныя прыказкі.

Рыфма – вельмі пашыраная з'ява ў парэмійным складзе: ёю ахоплена 42 працэнты прыказак (630 сярод 1500 прыказак, найбольш ужывальных у сучасным беларускім маўленні і зафіксаваных у адпаведных тлумачальных слоўніках).

Калі ў прыказках са структурай складанага сказа найчасцей рыфмуюцца апошнія словы прэдыкатыўных частак, то ў прыказках, структурна арганізаваных як просты сказ, схема рыфмоўкі куды больш разнастайная. Тут можна вылучыць некалькі груп.

**1. Двухкампанентныя прыказкі, абодва словы якіх звязаны рыфмай:** ***Хата рагата; Маладосць – дурносць*** і г.д. Да гэтай жа групы можна далучыць шэраг трохкампанентных прыказак з адмоўем ***"не"*** паміж словамі: ***Смужба не дружба; Спроба не хвароба; Сівізна не ўкарызна; Смех не грэх; Укрой – не ўдой***.

**2. Прыказкі з рыфмай-кольцам** (часцей гэта трох – ці чатырохкампанентныя прыказкі, у якіх рыфмуюцца першае і апошняе словы (іх больш як 20), напрыклад: ***Зяць любіць узяць; Можа надвое варожа; Цянькі адбіраюць дзянькі; Увосень – работ восем; Увосень і кабан паросен***.

**3. Прыказкі, у якіх рыфмуюцца два першыя кампаненты:** ***Адной рукой і вузла не завяжаш; За чужой шчакой зуб не баліць; Не зважай на ўраджай, а жыта сей*** і і нш. Зрэшты, з такой жа рыфмоўкай сустракаемся і сярод прыказак са структурай складанага сказа: ***Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць; Ад ліха ціха, а дабра не чуваць; Свой за гарой, а сусед у акне; Грэх у мех, грашаняты ў торбу***.

**4. Прыказкі, у сярэдзіне якіх рыфмуюцца два сумежныя словы:** ***Бадлівай карове бог рог не дае; На адно вуха глуха, а на другое не чуе***. Такая рыфма назіраецца і ў прыказках, пабудаваных па схемах складанага сказа: ***На воўка памоўка, а мядзведзь цішком; Усе бабры дабры, адна выдра ліхая; Усе яршы харашы, адзін шчупак як дурак***.

**5. Прыказкі, дзе рыфмуюцца два канцавыя кампаненты:** ***Не да танцу абадранцу; Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку; Свая сярмяжка не цяжка; Чужая яечня не вечна***.

**6. Прыказкі, у якіх рыфмуюцца тры словы.** Адна з іх – ***Дома і салома ядома*** – чатырохкампанентная, тры кампаненты, суадносныя з паўназначнымі словамі, звязаны рыфмай. Іншыя прыказкі гэтай групы складаюцца больш чым з 4-х кампанентаў: ***За дурной галавой нагам неспакой***; ***І сам не гам, і другому не дам; На гэта лета добра і гэта***. Тры словы рыфмуюцца і ў некаторых прыказках са структурай складанага сказа: ***Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс; Чым хата багата, тым і рада; Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка; Атаўка – сену прыбаўка, ды не мог скасіць яе Саўка*** і інш.

**7. Прыказкі, у якіх рыфмай звязаны канцавыя словы сінтагмы, маўленчага такту, ці рытміка-інтанацыйнай групы.** Такіх прыказак больш за 30, напрыклад: ***Галоднай куме хлеб наўме; За маё жыта ды мяне пабіта; Зямля святая ўсіх прымае; Чужую бяду рукамі развяду; Цікаўнай Варвары сабакі нос адарвалі.***

**8. Прыказкі, у якіх кампаненты рыфмуюцца папарна, утвараючы дзве пары рыфмаў:** ***На чужой старонцы рад сваёй варонцы; Дружба дружбай, а служба службай.***

У двухчленных прыказках, пабудаваных па схемах складанага сказа, рыфмай звязаны, як ужо ўпаміналася вышэй, апошнія словы прэдыкатыўных частак. Вось па адным прыкладзе рыфмаваных прыказак са структурай:

А) складаназлучанага сказа: ***Ці памёр Гаўрыла, ці яго скула задушыла;***

Б) складаназалежнага: ***Дзе нянек многа, так дзіця бязнога***;

В) бяззлучнікавага: ***Мая хата з краю, нічога не знаю***.

Часам у кожнай прэдыкатыўнай частцы свая рыфма: ***Худы – хоць куды, а тлусты – чалавек пусты; Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.*** У некаторых двухчленных прыказках рыфма ёсць толькі ў 1-й частцы: ***Каму па каму, а каму два камы; Не дай бог свінні рог, а мужыку панства.***

У трохчленных прыказках схема рыфмоўкі таксама неаднатыпная. Адны прыказкі маюць дзве пары рыфмаў: ***Адзін Сцяпан – заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача; Радня да паўдня, а як сонца зойдзе, сам чорт не знойдзе.*** У другіх – адна рыфма, прычым у адных выпадках (два першыя прыклады) рыфмуюцца апошнія словы дзвюх першых парэмійных частак. У другіх – першай і трэцяй частак: ***Не ў тым сіла, што кабыла сіва, а што воза не цягне; Першая чарка калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць; Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж; Купіў мыла – еш, хоць і не міла.***

Амаль усе чатырохкампанентныя прыказкі (іх больш за 20) маюць па дзве пары рыфмаў, напрыклад: ***Як п'ян, дык капітан, а як праспіцца, дык свінні баіцца; Адзін з'еш хоць вала, дык адна хвала, а пакрысе, ды ўсе; Дай Божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не дай Божа.***

Як вядома, рыфмы паводле месца апошняга націскнога склада бываюць мужчынскія, жаночыя і дактылічныя. Сярод 630 рыфмаваных прыказак 239 маюць рыфму мужчынскую ***(Смех не грэх)***, 370 – жаночую ***(Ад напасці не прапасці)***, 21 – дактылічную ***(Колас ад коласу – не пачуеш голасу)***.

У адной навуковай працы хоць і не падаюцца канкрэтныя колькасныя паказчыкі, але гаворыцца, што "дзеяслоўная рыфма ў нашай прыказкавай паэзіі – з'ява вельмі пашыраная". Гэта рыфмоўка сапраўды "вельмі пашыраная", але ўсё ж пераважае назоўнікавая рыфмоўка: у 228 прыказках назоўнік рыфмуецца з назоўнікам ***(бычку – лычку, аладка – грамадка)***. Дзеяслоў з дзеясловам рыфмуецца ў 198 прыказках ***(сеў – прыкіпеў, носіць – просіць)***. Радзей сустракаецца рыфмоўка прыметнікавая ***(багаты – вінаваты; прымачы – сабачы)***, прыслоўная ***(нізка – блізка, міла – гніла)***, займеннікавая ***(нікога – нічога; я – мая)***.

У вельмі многіх прыказках (больш як 120) сустракаем арыгінальную рыфму, заснаваную на сугучнасці слоў не аднолькавай, а розных часцін мовы. Так, асабліва часта рыфмуюцца назоўнік з дзеясловам: ***Зяць любіць узяць; або княгіня – загіне; Зося – прыйшлося, камедыя – ведае, палена – паела, лапаць – плакаць, бядзе – ідзе, гулі – абулі.***

Крыху радзей рыфмуюцца назоўнікі з прыметнікамі або прыслоўямі, займеннікамі, лічэбнікамі, напрыклад: ***бабры – дабры, Зміцер – хіцер, сіла – сіва, бруха – глуха, яршы – харашы, грак – так, час – нас, крам – нам, друг – двух, удаве – дзве, рукой – адной.***

Прыметнікі іншы раз звязваюцца рыфмай з назоўнікамі, дзеясловамі, зрэдку – з займеннікамі ці прыслоўямі: ***дурной – галавой, п'ян – капітан, ласы – прыпасы, святая – прымае, свеж – еш, чубатае – сватае, траякі – ніякі, худы – куды.***

Як вядома, рыфмы паводле іх дакладнасці падзяляюцца на поўныя, ці дакладныя, і няпоўныя, прыблізныя. Нязначная колькасць рыфмаў у прыказках адносіцца да прыблізных: ***вырас – вынес, Мікола – нікога, грошы – босы, старац – хваліць.***

У некаторых прыказках слова, якое рыфмуецца, - форма былога клічнага склону: ***Гора табе, воле, калі цябе карова коле; Скачы, уража, як пан скажа; Не смейся, рабе, дасць бог і табе.*** Некалькі прыказак захавалі ў сваім складзе асобныя дыялектныя словы (яны рыфмуюцца) ці дыялектныя граматычныя формы: ***Каму кірмаш, а каму жыцця нямаш; Няма горшай балесці, як хочацца есці; Тры лісе ў адно зліліся; Мужыку розум прыходзе па шкодзе; Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці.***

З раней прыведзеных прыкладаў можна бачыць, што многія прыказкі (больш як 120) маюць не толькі рыфму, але і рытм. Рыфма, рытм, іншыя мастацка-паэтычныя якасці садзейнічаюць лёгкаму запамінанню прыказак і іх даўгавечнаму жыццю. Умелае і дарэчнае ўжыванне прыказак у маўленні – неаспрэчнае становчае сведчанне на карысць моўніка.

*Іван ЛЕПЕШАЎ,*
*прафесар кафедры бел. мовы ГрДУ.*

# ПРА НАШЫЯ ІМЁНЫ

Сіндром абарыгена – рэнегата, які не хоча карыстацца роднай мовай, бо лічыць мову колішніх каланізатараў больш культурнай (а ў нашых умовах больш зразумелай Богу) праяўляецца таксама ў тым, што большасьць беларусаў, у тым ліку вельмі вядомых у адраджэнцкім руху асобаў, карыстаюцца расейскімі ўласнымі імёнамі, тым самым грэбуючы сваімі – беларускімі. Маўляў, расейскія імёны больш правільныя. Адразу ўзнікае пытанне – а на якой падставе сцвярджаецца, што расейскія мёны больш правільныя? Які крытэр выкарыстоўваецца?

Асабіста я для сябе гэты крытэр вызначыў: улічваючы той факт, што большасць нашых уласных імёнаў мае старагабрэйскае (біблейнае) паходжанне. Больш правільным я лічу тое вымаўленне, якое больш набліжана да габрэйскага арыгінальнага.

Адзначу, што сучасныя расейскія імёны прыйшлі да іхніх носьбітаў праз пасярэдніцтва грэцкай і царкоўнаславянскай моваў. Грэкі не мелі літар, адпаведных габрэйскім ***цадэ*** і ***шын***, таму яны замянілі яе сваёй літарай ***сігма***. Грэкі не мелі літары, адпаведнай габрэйскай гэ. Таму яны не чыталі яе зусім і г. д.

Гэтакім чынам, вялікая колькасць сучасных расейскіх імёнаў вельмі скалечана ў параўнанні з іхнім арыгінальным вымаўленнем.

Але што датычыцца нашых беларускіх уласных імёнаў, тут я хачу звярнуцца да канкрэтных прыкладаў. Возьмем, напрыклад, вядомае габрэйскае імя ***Yosep***.

Як было сказана вышэй. Літару ***у*** грэкі замянілі на ***і***. таму ў расейцаў гэтае імя набыло форму – ***Иосиф.*** Ангельцы і італьянцы чыталі літару ***у*** як ***дж***. Таму імя ***Yosep*** набыло ў іх адпаведна формы ***Джозеф*** і ***Джузэпэ***. Французы і партугальцы чыталі літару ***у*** як ***ж***. Таму дадзенае імя набыло з іх адпаведна формы – ***Жозеф*** і ***Жазэ***. У іспанцаў – ***Хасэ*** і г.д. З усіх еўрапейскіх народаў найбольш правільна (г.зн. найбольш набліжана да арыгіналу) гэтае імя чытаецца ў немцаў – ***Ёзэф***. Але ж і беларускае імя ***Язэп*** у гэтым плане стаіць далёка не на апошнім месцы. Яно куды больш набліжана да арыгінальнага вымаўлення, чым ***Иосиф***.

Некаторыя беларусікя ўласныя імёны цалкам паўтараюць арыгінальнае вымаўленне, як, напрыклад, імя ***Якім*** (арыгінальная форма - ***Yaqim***). У расейцаў гэтае ж імя набыло форму – ***Иаким***.

Маючы вялікую колькасць падобных прыкладаў, я з упэўненасцю магу сцвярджаць, што нашыя беларускія імёны куды больш "правільныя", чым расейскія. Гэта можна патлумачыць тым, што наш народ успрымаў біблейныя імёны не толькі праз царкоўныя тэксты, але і ад жывых носьбітаў габрэйскай мовы, якія заўсёды складалі значную частку насельніцтва нашай краіны.

Так што, не трэба саромецца называць сябе тымі імёнамі, якімі спрадвеку карысталіся нашыя продкі.

***Сяржук Пятровіч,*** *г. Барысаў.*

# У ПОЛЬШЧЫ ПРАЙШЛА ЧАРГОВАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКІХ І ПОЛЬСКІХ ЛІТАРАТАРАЎ

З 17 па 20 кастрычніка ў Гайнаўцы і Белавежы (Польшча) праходзіла чарговая традыцыйная сустрэча беларускіх і польскіх літаратараў "У пошуку новых формаў суседства".

Як паведаміла БелаПАН удзельніца сустрэчы, беларуская пісьменніца Вольга Іпатава, арганізатарамі творчай акцыі выступілі Польскі інстытут у Менску, кафедра беларусістыкі Варшаўскага універсітэта, якую ўзначальвае Аляксандр Баршчэўскі, вядомы беларускамоўны паэт Польшчы, які выступае пад псеўданімам Алесь Барскі.

У арганізацыі сустрэчы таксама бралі ўдзел аддзяленне Фонду царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, які ўзначальвае Мікалай Бушко, Таварыства еўрапейскай культуры на чале з Эўгеніюшам Кабатцам — ураджэнцам Ваўкавыска (Гарадзенская вобласць), пісьменнікі і літаратуразнаўцы А.Баршчэўскі, М.Бушко, Э.Кабатц, Катажына Бартноўска, Віктар Кабац, Рамуальд Карась, Януш Тэрнэр і Чэслаў Сэнюх (Польшча), В.Іпатава, кінарэжысёр і сцэнарыст Уладзімір Колас, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч, намеснік старшыні СБП Барыс Сачанка і паэт Анатоль Вярцінскі (Беларусь).

Паводле слоў В.Іпатавай, на сустрэчы абмяркоўваўся шэраг пытанняў, у тым ліку новыя аспекты польска-беларускага суседства, будучыня фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, новыя тэндэнцыі ў беларускай літаратуры вачыма палякаў, сітуацыя вакол Саюза беларускіх пісьменнікаў, спецыфіка народнай культуры Гайнаўкі і яе ваколіц.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***

# І вершы пісаў, і суполкі ствараў

**14 лістапада 1905 года нарадзіўся паэт Міхась Васілёк (сапр. Міхаіл Касцевіч). Кандыдат філалагічных навук, былая выкладчыца Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы І.А.Карпюк добра ведала гэтага чалавека.**

***— Іна Анатольеўна, смерць Міхася Васілька, якая спасцігла яго трэцяга верасня 1960 года, выклікала вялікі наплыў людзей, якія жадалі развітацца з пісьменнікам? Вы таксама былі сярод іх...***

— 45 гадоў – вялікі тэрмін, каб забыцца пра чалавека. Васілька цяпер памятаем альбо мы, яго знаёмыя пры жыцці, альбо прыхільнікі роднага слова, навукоўцы і літаратуразнаўцы. На той час былі яшчэ свежымі ўспаміны пра даваенныя падзеі, калі адно ўпамінанне імя Міхася Васілька выклікала непадзельную цікавасць да яго асобы. Хто не ведаў яго сатырычных вершаў! Яны дэкламаваліся сялянамі як не ў кожнай вёсцы, пераказваліся на базарах і кірмашах. Калі сам аўтар з'яўляўся, каб пачытаць свае творы, то ў памяшканне было не ўбіцца.

Таму і смерць Міхася выклікала такі шырокі водгук. Многа было не толькі гараджан, але і вяскоўцаў. Чуліся ціхія размовы пра сустрэчы з Васільком. Нехта ўзгадваў выпадкі з яго жыцця...

Пасля паэт са Слоніма Анатоль Іверс даслаў мужу пісьмо, у якім прызнаўся, што смерць Васілька выклікала ў яго столькі слёз, як у свой час смерць роднага бацькі.

***— Вы добра ведалі гэтага чалавека. Як адбылося знаёмства?***

— Праз майго мужа Аляксея Карпюка. Як сябры Саюза пісьменнікаў, яны часцяком сустракаліся ў рэдакцыі газеты "Гродзенская праўда", дзе Міхась працаваў літаратурным кансультантам. Зблізіліся, думаю, найперш як беларускамоўныя выхадцы з гэтага краю. Мелі агульныя тэмы для размовы – удзел у даваенных падзеях як актывістаў ідэі вызвалення з-пад Польшчы, сяброўства ў Грамадзе, станаўленне Савецкай ўлады пасля 17-га верасня 1939 года, вайна з гітлераўцамі, партызанскі і падпольны рух, пісьменніцкая дзейнасць...

Аднойчы ў канцы 50-х у рэдакцыі адбылася вечарына з нагоды нейкага свята. Я ўпершыню прысутнічала ў творчай кампаніі. Гучалі вершы. Памятаю, адзін з прысутных, адстаўны вайсковец, дэкламаваў вельмі прыгожа. Пасля загучалі галасы: "Міхась! Васілёк! Давай цяпер ты!". Ён чытаў "Век дваццаты, век харошы, абы грошы, толькі грошы..." (верш "Эх, каб грошы..."). Прысутныя ажно клаліся ад смеху. А. Карпюк цаніў Васілька як паэта.

Мне ён запомніўся вельмі добрым чалавекам, сціплым. Мы нейкі час жылі побач. Бывала, настрой аніякі, адны турботы. А ён прыбяжыць і скажа:

— Іначка, галубанька! Што твае вочанькі блакітненькія сумныя сёння? Ты ж такая маладзенькая, усё вытрымаеш...

І сапраўды на сэрцы станавілася лягчэй. Бядоты адступалі.

***— Васілёк, калі меркаваць па фотаздымках, здаецца спакойным, нават суровым чалавекам. А ў жыцці якім быў?***

— Стрыманым, як усе, хто паходжаннем з Заходняй Беларусі. Перажылі такое, што не пераказаць. Васілёк не выключэнне. Да вайны ўдзельнічаў у рэвалюцыйным руху. Быў сябрам КПЗБ, актывістам Грамады, ствараў гурткі Таварыства беларускай школы. Арыштоўваўся тагачаснымі польскімі ўладамі, меў зняволенне ў турме. Удзельнічаў як жаўнер Войска Польскага ў баях з нямецкімі акупантамі, трапіў у палон. Уцёк. Быў у антыфашысцкім падполлі, у партызанах. Яго вершы падпольшчыкі са Скідаля выкарыстоўвалі ў лістоўках...

Мне здаецца, што Міхась замкнуўся ў сабе пасля таго, як Савецкая ўлада надзвычай жорстка паставілася да заходнебеларускіх змагароў. Сяброўства ў КПЗБ, забароненай пасутнасці Сталіным, не давала права на аднаўленне ў партыі. Мясцовых актывістаў не дапускалі да кіраўнічых пасад, ставіліся да іх падазрона. Прыезджыя кадры цвёрда трымаліся вызначанай лініі.

Адкуль тут узяцца адкрытасці і шчырасці? Спачатку трэба разглядзець чалавека, распазнаць яго. Хіба ў свойскім асяродку, як на той вечарыне, калі побач свае людзі, можна і растаяць душой на нейкі час.



*А. Карпюк і М. Васілёк (сярэдзіна 50-х г.)*

**— Можна пачуць, што Міхась Васілёк быў паэтам даваеннай Заходняй Беларусі. Тэмы падказвала само жыццё. Найперш гэта адносіны пана і работніка ці селяніна. А вось пасля вайны, пры Савецкай уладзе, ён нічога блізкага да сваіх узораў не напісаў...**

— У гэтым ёсць доля праўды, калі не ўся праўда. Васілёк праславіўся як паэт-сатырык, выкрывальнік несправядлівасці. Талент дазволіў яму паэтызаваць пабачанае ў сціслых, але напоўненых глыбокім сэнсам, радках. Пры Савецкай уладзе крытыкаваць было небяспечна. Людзі знікалі бясследна за неасцярожнае слова. Можа таму Міхась друкаваў вершы, прысвечаныя партыі, Леніну, Першамаю. Гэта не была паэзія, былі "агіткі". Ён выдатна разумеў, што да чаго, спрабаваў такім чынам адвесці ад сябе магчымы паклёп.

Гаварыць, што нічога добрага пасля вайны не напісаў, было б несправядліва. Сабралася на цэлую кнігу. Аляксей Карпюк падварушыў Янку Брыля, Максіма Танка і ў 1963 годзе быў выдадзены зборнік "Зоры над Нёманам". І Танк, І Брыль, і Карпюк, і Уладзімір Калеснік, які даследаваў творчасць Васілька, – усе гэтыя асобы з Заходняй Беларусі. Яны ведалі адзін аднаго яшчэ з даваеннага часу па сумеснай падпольнай барацьбе, цанілі таварыскасць, сумленнасць і адкрытасць Міхася. Адгукнуліся, калі смерць напаткала сябра. Яны ж парупіліся пра помнік яму.

***— Не прагучала прозвішча Васіля Быкава. А ён ужо працаваў у Гродне...***

— Не забудзем, што гаворка ідзе пра сярэдзіну і канец 50-х гадоў. Не было яшчэ Васіля Уладзіміравіча, а быў проста Васіль ці Вася – 35-гадовы празаік, імя якога амаль не было вядомым. У 1957 годзе ён звольніўся з арміі і ў другі раз прыехаў у Гародні. Пісьменнікі прыглядаліся да яго, а ён да іх. Даваў Васільку як літкансультанту чытаць свае творы. Міхась яшчэ ў 1949 годзе змяшчаў у літаратурных старонках газеты першыя рускамоўныя апавяданні Васіля Уладзіміравіча. Паміж імі былі доўгія гаворкі. Пад уплывам гарадзенскіх творцаў Васіль стаў пісаць па-беларуску, зусім па-іншаму пачаў успрымаць рэчаіснасць.

На пахаванні Васілька ён быў разам з намі.

***— Якія думкі ўзнікаюць ў пярэдадзень 100-годдзя з дня нараджэння Міхася Васілька?***

— Сумныя, калі па шчыраму. Чаму? Напрыклад, памятныя дошка на сцяне афіцыйнай установы, на месцы якой раней быў дом Васілька, знікла. У пачатку той жа вуліцы Васілька ўстаноўлены бюст В.І.-Чапаеву. Лагічна, што пры вуліцы Васілька будзе і яго скульптурны вобраз. Што да Чапаева, то ніхто не змяншае яго заслуг перад Айчынай. Але хіба не знойдзецца ў горадзе іншага дастойнага месца праслаўленаму чырвонаму камандзіру?..

У многім вінаваты і мы самі, што імя паэта ўспамінаецца зрэдзь. Маю на ўвазе грамадскія культурніцкія, асветныя, гістарычныя і краязнаўчыя аб'яднанні. Не гаворыцца пра нашага земляка ў школах, не вывучаецца яго творчасць ва універсітэце.

Між тым, Міхась Васілёк займае сваё адметнае месца ў пісьменніцкай кагорце Гарадзеншчыны і Беларусі. Пра гэта трэба помніць.

*Гутарыў*
***Антон Лабовіч.***
*Гародня.*




*Помнік на магіле М. Васілька ў Гародні*

**Даведка "НС"**

***Міхась Васілёк*** *(сапр. Міхаіл Касцевіч) нар. 14 лістапада 1905 г. у в. Баброўня Гарадзенскага р-на ў сям'і лесніка. У бежанстве атрымаў сярэднюю адукацыю – г. Казлоў (Мічурынск). У 1921 годзе сям'я вярнулася на Радзіму.*

*Сябра Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Арганізоўваў Таварыствы беларускай школы. За ўдзел у рэвалюцыйным руху быў зняволены.*

*У верасні 1939 года змагаўся ў складзе польскай арміі супраць фашысцкіх акупантаў. Трапіў у палон. У жніўні 1941 г. уцёк і ўключыўся ў барацьбу супраць гітлераўцаў. Кіраваў Скідальскім падпольным камітэтам. Пад псеўданімам Ян Гром выступаў у партызанскім друку.*

*Пасля вызвалення працаваў у раённай газеце "Чырвоны сцяг" (Скідаль), абласной газеце. Сябра Саюза пісьменнікаў СССР з 1945 г.*

*У друку пачаў выступаць з 1926 г. Першы зборнік "Шум баравы" (Вільня, 1929) быў канфіскаваны паліцыяй. Рукапіс другога забрала палітычная паліцыя і знішчыла (1934). У 1937 г. у Вільні выйшаў зборнік "З сялянскіх ніў".*

*У савецкі час выдадзены кнігі паэзіі "Выбраныя вершы" (1950), "Выбраныя творы" (1955), "Зоры над Нёманам" (1963), "Вершы" (1973).*

*М.Васільку ўдалося пазбегнуць сталінскіх рэпрэсій, пад якія трапілі актывісты нацыянальна-дэмакратычнага руху Заходняй Беларусі. Раскрыцца яго магутнаму сялянскаму таленту не было наканавана.*

*Памёр 3-га верасня 1960 г. Пахаваны ў Гародні.*



# Віншуем!

Сябра Баранавіцкай гарадской арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Міхась Маліноўскі атрымаў ганаровую грамату Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Ганараванне адбылося ў Менску 12 кастрычніка 2005 года. Напачатку Міхася Маліноўскага віншавала асабіста галоўны рэдактар газеты "Культура" спадарыня Л. А. Крушынская, а затым ўсе супрацоўнікі галоўнага культурніцкага выдання Беларусі, пазаштатным карэспандэнтам якой ён з'яўляецца вось ужо шмат гадоў. Нягледзячы на пазаштатнасць, баранавіцкі краязнаўца напісаў мноства цікавейшых артыкулаў як па гісторыі Баранавіцкай зямлі, так і па мінуўшчыне Беларусі. Спадар Маліноўскі друкуецца не толькі ў газеце "Культура", але і ў выданнях "Наша слова", "Літаратура і мастацтва", "Гродзенская праўда", "Краязнаўчая газета", "Народная трыбуна", "Родная прырода", "Intex-press", "Настаўніцкая газета" і г.д. М. Маліноўскі глыбока вывучае літаратурныя сувязі славянскіх народаў, а таксама культуру, гісторыю і традыцыі малых народаў Беларусі: жыдоў, цыганоў, татараў і іх стасункі з беларусамі. Ён самааддана прапагандуе гісторыю і славутыя постаці нашага краю, удзельнічае ў шматлікіх навуковых канферэнцыях і імпрэзах, прысвечаных гісторыі Бацькаўшчыны.



Віншаванне Міхася Маліноўскага, як і іншых дзеячоў культуры, адбылося ў Доме кіно (былы кінатэатр "Партызан"). Міністр культуры Беларусі Леанід Гуляка ўрачыста ўручыў М. Маліноўскаму Ганаровую грамату за шматгадовую культурнаасветніцкую дзейнасць на ніве папулярызацыі беларускай гісторыі і культуры.

Шчыра віншуем нашага сябра і выдатнага краязнаўца Маліноўскага М. М. з гэтай нагоды і зычым моцнага здароўя і далейшай плённай працы на ніве беларускасці і адраджэнскага руху.

*Віктар Сырыца, старшыня Баранавіцкай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.*

# Віншуем
## сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў лістападзе

Абрагімовіч Марына Яўг.
Амінава Святлана
Андрэйкавец Надзея Дміт.
Асецкі Аркадзь
Бабак Вольга
Бабкова Ганна Ігараўна
Баранаў Аляксандр Георг.
Бародка Зьміцер Міхайл.
Бартасевіч Людміла
Баўтовіч Міхась
Бахвалаў Дзмітрый
Бекіш Віктар Андрэевіч
Белакоз Вера
Борын Алег Мікалаевіч
Булаш Алена
Ваданосава Фаіна Алякс.
Васько Віктар Вячаслав.
Ветчынаў Сяргей
Вікторчык Ніна Сяргееўна
Волкаў Алег
Вярцінскі Анатоль Ілліч
Ганчарова Таццяна
Гедрэвіч Іосіф Антонавіч
Гівоіна Вольга Міхайлаўна
Гнедчык Алег
Груша Дар'я Уладзімір.
Грыб Ян Янавіч
Губарэвіч Віктар Дзмітр.
Гур'ян Алена Барысаўна
Дабравольскі Аляксандр
Давыдзька Святлана
Давыдоўская Ніна Юльян.
Дацэнка Аляксандр Кірыл.
Дзербянёва Анжаліка
Дзіцэвіч Людміла Мікал.
Домаш Валянціна Іосіф.
Досіна Алена
Драгун Данута
Дрыга Святлана Мікал.
Дубовік Іна Пятроўна
Зайкоўскі Эдвард Міхайл.
Зарэцкая Вера Якаўлеўна
Здановіч Уладзімір Васіл.
Зуева Галіна Паўлаўна
Кадыш Любоў
Кажамякін Генадзь Вячасл.
Казакоў Алесь
Казачонак Сяргей
Казлоўскі Руслан Канстан.
Калатоўкіна Ларыса Анат.
Капойка Уладзімір
Карповіч Ірына Іванаўна
Кацяшоў Дзмітры Сярг.
Кірыльчук Хрысціна Васіл.
Кірзева Алена Уладзімір.
Клікун Таццяна
Козел Галіна Маркаўна
Кошкіна Людміла Часлав
Крук Валянціна Іосіфаўна
Крыжаноўская Вольга Ал.
Кудлацкая Валянціна
Кузьма Аляксандр
Кузьміч Мікалай Пятровіч
Кулей Іна Феліксаўна
Кучынская Галіна
Лапіцкая Святлана
Левіт Зьміцер
Лепяцюхіна Ганна
Літоўчык Святлана Міх.
Лойка Алег Паўлавіч
Лубянава Таццяна Віктар.
Лысова Таіса
Ляўчук Аляксандр Сярг.
Макарэвіч Наталля Міх.
Маковіч Дзіна
Маліноўскі Віктар Леанід.
Марговіч Антон Антонавіч
Мароз Жана Мікалаеўна
Мацievіч Вольга Іванаўна
Мацкоўская Наталля Вас.
Мацюкевіч Паўлюк Іван.
Мельнік Міхась Іванавіч
Мельнікаў Аляксандр
Мельнікаў Андрэй Міхайл.
Міжурына Раіса Канстанц.
Мілаш Леакадзія
Міхалевіч Мілана Міхайл.
Моніч Зміцер
Мухіна Леанарда Станісл.
Нагін Павел
Несцераў Аляксей
Нікіціна Ліля
Нікіціна Людміла Канст.
Пагрэбіцкі Алег
Падасетнікаў Васіль
Паляшчук Таццяна
Панюціч Аляксандр
Паросава Марына
Пашкевіч Валерый Васіл.
Пракаповіч Мікалай Мік.
Пракопчык Марына Міх.
Пугаўка Алена
Пугачэўскі Аляксандр Вік.
Пыльчанка Яўген Аляксан.
Радзіён Ірына
Радкоў Генадзь Андрэевіч
Ралько Леанід Міхайлавіч
Розумаў Анатоль Якаўл.
Савіцкая Яніна Іосіфаўна
Савіч Аляксандр Аляксан.
Сергіевіч Дзмітры
Сімакова Рэгіна Іосіфаўна
Сінкевіч Мікалай Сцяпан.
Скуратовіч Аркадзь
Сталярова Вера
Станкевіч Ларыса Фёдар.
Стасюкевіч Дзіна
Сурко Анатоль
Сцепулёнак Эма Антон.
Тарасава Святлана Міх.
Тозік Эдуард
Трафімец Ульяна Святасл.
Трафімчык Алена Веніямін.
Турцэвіч Паліна Віктар.
Тычына Дзмітры Валянцін.
Уласава Дар'я
Федаровіч Кацярына
Федаровіч Надзея
Фралоў Аляксей Валер'ев.
Фядзюшын Ягор Ягоравіч
Хамінскі Міхась Аляксан.
Царкоў Мікалай Прохар.
Цехановіч Святлана
Чаховіч Г. Г.
Чашун Уладзімір
Шчурко Галіна Аляксандр.
Шчурко Лідзія Іванаўна
Шыманчык Святлана Мік.
Ялугін Эрнест Васільевіч
Яскевіч Аляксей Юр'евіч
Ясюсевіч Наталля Анатол.

# Сустрэча з прафесарам А. Грыцкевічам

На мінулым тыдні, у сядзібе грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", што знаходзіцца па вуліцы Румянцава, 13, пачаліся сустрэчы са знакамітымі дзеячамі навукі і мастацтва.

Пятага кастрычніка такая сустрэча адбылася з вядомым беларускім гісторыкам, доктарам гістарычных навук, загадчыкам кафедры гісторыі Беларусі і музеязнаўства Беларускга дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Грыцкевічам Анатолем Пятровічам. "Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска" – тэма сустрэчы, на якой Анатоль Пятровіч расказаў слухачам аб асноўных момантах з гісторыі ўзнікнення і развіцця нашай сталіцы. З яго выступу можна было даведацца аб функцыях горада, аб сапраўдным месцазнаходжанні цэнтра Менска, этнічным складзе насельніцтва горада, дзейнасці навучальных установаў, аб урачыстых відовішчах, побыце і норавах жыхароў. Анатоль Пятровіч падрабязна расказаў слухачам аб тым, які выгляд меў старажытны Менск. Удзельнікам сустрэчы стала вядома, што горад – умацаванае паселішча, акружанае валам і часцей за ўсё дубовымі бярвеннямі. Вялікую ўвагу Анатоль Пятровіч звярнуў на тое, што змяшчалася раней на вуліцах сённяшняга Менска.

Пасля прамовы слухачы маглі задаць некаторыя пытанні выступоўцу па тапаніміцы і тапаграфіі старажытнага Менска.

*Ганна Дубко.*

# Пад агніста-цёплым колерам восені

Новая праграма Зміцера Вайцюшкевіча "Месяц і сонца", якую аматары беларускай музыкі мелі магчымасць паслухаць у канцэртнай зале "Менск" 22-га верасня, нагадвае рамантычнае падарожжа па краіне Узыходзячага сонца. Квеценне дрэваў, сполахі лісцяў, шолахі траў, ранішнія туманы, магутныя і недакранальныя вяршыні гор - гэтыя вобразы паўсталі перад гледачамі. Вабіла і прагулка па ўзбярэжжы акіяна, блуканне па светлых мелізнах, дзе ходзяць чароды маленькіх рыбак. Захапляла мелодыя сельскага свята, дзіцячыя гульні, што аднолькавыя ва ўсім свеце.

Песні новага альбома напісаны Зміцерам Вайцюшкевічам на вершы японскіх аўтараў і на старажытныя матывы. Дакрананне да арыгіналу стала магчымым пры дапамозе спадарыні Масакі Тацумі, а пераклад вершаў на беларускую мову зрабіў Алесь Камоцкі. Праграма, у якой прымаў удзел з чытаннем вершаў паэт і мастак Адам Глобус, суправаджалася цудоўным шматкаляровым відэарадам.

Малады артыст, які ўжо шмат падарожнічаў па розных кутках зямлі, спяваў у Расіі, Польшчы, Нарвегіі, Італіі, цяпер перадаў бачанне на краіны Узыходзячага сонца вачыма шчырага беларуса. Ён знайшоў у старадаўняй японскай паэзіі шмат сугучнага сучаснасці, агульначалавечага, пашырыў свой далягляд, каб лепш зразумець і палюбіць нашу родную краіну.

І вось, у ходзе выступлення зноў адбываецца перамена тэматыкі, быццам вяртанне дадому, дзе няспынным рухам ідзе жыццё на гаспадарцы, спее жыта, пяюць пеўні, пасвяцца на лузе коні, і ў нядзелю народ ідзе да храма, каб падзячыць і ўславіць Бога. І зноў – вясёлы кірмашовы пляц, дзе гучыць спеў і жарт, чуецца звычайнае дабрабыту і шчасця, урадлівасці, цяпла і утульнасці ў хаце.

Горача ўспрымала публіка любімыя песні з папярэдніх альбомаў - "Паравінаў году", "Паравоза кахання", ды знакавы твор - "Я нарадзіўся тут".

Атрымалася вельмі добрая вераснёўская праграма, якую б варта было слухаць на вялікай плошчы сярод моцнага гурта народу. Тыя, каму пашанцавала бачыць новы канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча, адчулі, што адбылося прыгожае восеньскае свята музыкі, дзе радасна было чуць беларускую гаворку з вуснаў як дзяўчатак-студэнтак, так і знакамітых мэтраў мастацтва і культуры.

Стварыць сцэнічныя вобразы Зміцеру Вайцюшкевічу дапамагалі ўдзельнікі яго аркестра: Ксенія Мінчанка, Юрась Мартынаў, Аляксандр Сазонаў, Алег Івановіч, а з імі разам і Аляксандр Памідораў. Пранікнёна гучалі патрыятычныя вершы Адама Глобуса, якія акцэнтавалі беларускую тэматыку.

Пажадаем маладому артысту далейшага творчага росквіту і служэння роднай мове і Айчыне!

*Э. Оліна.*

# УВАГА!

**Сустрэчы ў сядзібе ТБМ:**

**1 лістапада ў 18.00.** У. Арлоў. Гістарычныя ваколіцы. Вандроўкі ў прасторы і часе.

**1 лістапада ў 19.30.** А. Анісім. Як стварыць суполку ТБМ.

**9 лістапада ў 18.00.** В. Іпатава. Менск у творах беларускіх пісьменнікаў. Гісторыя ў вобразах.

**9 лістапада ў 19.30.** А. Анісім. Як стварыць суполку ТБМ.

**10 лістапада ў 18.00.** Л. Дзіцэвіч. Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне.

# In memorial



*Сумная вестка з велізарным спазненнем прыйшла з Віцебска: у дзень свайго 50-годдзя ў аддзяленні рэанімацыі адной з гарадскіх клінік памёр Сяргей Кавалёў, вядомы чытачам "Нашага слова" пад літаратурным псеўданімам* ***С. Квецень.***

*З Сяргеем мы вучыліся на гістарычным факультэце БДУ. Ён друкаваў свае расейскамоўныя вершы ў нашым самвыдавецкім альманасе "Мілавіца", якім цікавілася не толькі факультэцкае начальства, але і літаратуразнаўцы ў цывільным. Ад іншых аўтараў Сяргей адрозніваўся неюначай сур'ёзнасцю і стрыманасцю. Хвароба ўжо трымала яго ў сваіх, тады яшчэ не смяротных кіпцюрах.*

*Пасля alma mater нашы шляхі разышліся. Сяргей выкладаў гісторыю ў віцебскіх навучальных установах, і не проста выкладаў, а заглыбляўся ў мінулае, імкнуўся зразумець адметнасць і непаўторнасць тысячагадовага шляху беларусаў, каб убачыць іх гістарычную перспектыву.*

*Сяргеева вяртанне да Беларусі і беларускай мовы было доўгім і пакутлівым. Але яно адбылося, сведчаннем чаго стала праца ягонага жыцця, якой ён даў назву "Шлях: Твары, думкі, галасы", вызначыўшы жанр гэтага твору як "Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу".*

*Кавалёў пісаў "Шлях...", губляючы слых, зрок, каардынацыю рухаў. Сяргеевы блізкія сцвярджаюць, што якраз гэтая праца апошнія гады і трымала яго на свеце.*

*Удава С. Кавалёва Ніна шчыра дзякуе рэдакцыі "Нашага слова" за публікацыю раздзелаў "Шляху..." і, як усе, хто ведаў Сяргея, спадзяецца на яе працяг. Чакаюць гэтага і іншыя чытачы "Нашага слова". Я ведаю не адзін прыклад, калі "Рыфмаваную гісторыю.." майго студэнцкага таварыша настаўнікі выкарыстоўвалі на ўроках і вечарынах, прысвечаных выдатным падзеям і асобам нашае даўніны.*

*У сваім лісце Ніна Кавалёва просіць рэдакцыю ўдакладніць напісанне Сяргеевага псеўданіму –* ***Квіцень.***

*"Ён меў на ўвазе не "квецень".* ***Квіцень – ад слова "праквітацца".*** *Такім чынам Сяргей падкрэсліваў свае адносіны да тых, хто імкнецца пазбавіць беларусаў іх гісторыі. А значыць, - і будучыні".*

*Душа Сяргея Кавалёва адляцела ў Вечны Вырай. Няхай там, у нябеснай Беларусі, ёй будзе ўтульна.*

***Уладзімір Арлоў.***

У 2004 годзе "Наша слова" надрукавала дзве часткі твора Сяргея Кавалёва "Шлях: Твары, думкі, галасы. Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу", якія называліся **"Русь"** і **"Літва"**. Праўда, як стала вядома, Сяргей не ўбачыў публікацыі, не паспеў. Сёння перад "Дзядамі" ў памяць пра паэта мы пачынаем публікацыю трэцяй часткі яго паэмы **"Рэч Паспалітая"**.

**С. Квіцень**

# ШЛЯХ: ТВАРЫ, ДУМКІ, ГАЛАСЫ

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

## РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ

### 66. МЕМУАР
**(Ф. Еўлашоўскі)**

Магутным рухам запыніў быццё
І над паперай пажадаў спачыну.
Як бы ўсё пранеслася жыццё
Перад яго прыціхлымі вачыма.

Успомніліся контуры пастаў
З прыязнасцю сустрэчнай і пашанай.
Пяро адвёў далей ад ратных спраў
І роздумаў палітыкі дзяржаўнай.

Круціўся быту звыклага базар,
Рой клопатаў, сярод усіх нямарных
І быў ужо тут першы мемуар
Гадоў-часін, занадта ардынарных.

Сяброўскія застоллі-вечары
Ці новая прыдбаная валока –
Бруіліся звычайна ручаі
У думках з непаўторнага былога.

Вяльможную прыемнасць гаманы
Даносілі лістоў руплівых далі.
І позірку дасуджаму яны
Знаёмыя кавалкі пакідалі.

Свае кляліся лініі граніц
На разнастайных фактах і прыкметах.
Хацелася аб тварах гаварыць –
Пярэстых і загадкавых планетах.

Вось толькі дужа ляшыў слоў засек.
Напэўна, ўжо стрыножваў іншы бераг.
Што ж, быў нармальны слабы чалавек –
З далёкіх нетраў высунуўся неяк.

### 67. МАЛАНКІ

Скаланула хату гучнай весткай,
Дадалося клопату ў людзей.
Поркнулі гарачай галавешкай,
Прыдалося, ў вулей неспадзеў.

Што будзе ў берасцейскай згодзе –
Лад ці пекла новае царкве?
Горача гудзелі аб прыгодзе
У палацы, стайні і карчме.

Як жа цуд такі наваражылі –
Розныя сцягнулі берагі?
Бы зямля і воблака-чужыя,
Побач храмы дыхаць не маглі.

Неспакойным сталася спатканне.
Хвалі расшчапляліся скалой.
Буйнымі маланкамі друкарні
Неба крыжавалі над сабой.

Ведалі – любая адзавецца
Заклікамі гнеўнымі званоў.
Песціў розум гукі грамавержцаў,
Залатыя іскры перуноў.

Колькі думак жарсных – хто развіжаць,
Скалане сумленнае пяро!
У казанняў незабыўных нашых
Люстра прамяністае было.

Кожны наглядзеўся. Час няміла
Лютых слоў шукаў у галаве.
А празрыстай песні не свяціла –
У такую жудзь не да яе.

### 68. ВЫХАД

Прыдумаў садом чалавек.
Змяшаліся лёсы ў Айчыне.
Назвалі жа Выхадам век –
Старым і пакутлівым імем.

Прыходзіў агульны разлад,
І стала у душах як пуста.
Старэйшы заважнічаў брат –
Шалеў ён з вялікага тлусту.

Круцілі паміж берагоў
Віры, як бы лодкі сляпыя.
Тапельцы па кроплі, другой
Сваё ў сабе загубілі.

Не помнілі, як і калі
Чужая звяла іх завея.
Амаль непрыкметна пайшлі
За здрадным сваім Маісеем.

Жалобай праціяла званы
Над асірацелай зямлёю.
Параненых, быццам паны,
Пакінулі ўсіх за сабою.

Не ныла ім родная косць,
Але задурылі прысмакі.
Зсурочыла д'яблава штось –
Падаліся ў ваўкалакі.

Здавалася іншым: міраж,
Часовыя рушылі здані.
Хоць кроны галелі наўсцяж,
Карэнні былі пад нагамі.

### 69. АХВЯРА

Патроху сходзілі асобы,
Знікалі непрыкметна львы.
Хоць прыбаўлялася Еўропы,
Затое менела Літвы.

Налалі моцны сан васала,
У ладны завялі кураж.
Пайшла ад Любліна навала,
Загрэбла з трыбухамі аж.

Заткнула на свабоду вушы,
Ушчэнт звяла ранейшы след.
Свой лепшы час нутром пачуўшы,
Апанаваў стары сусед.

Выцягваў сокі чужаніца,
Убок адсоўваўшы, на схіл.
І хіба толькі казырыцца
Яшчэ хапала кволых сіл.

Дурным чмурыла пыха зеллем,
Вагой – не болей дзьмухаўца.
Ужо паблажліва глядзелі
Як на ўсё спусціўшага гульца,

Ахвяру азіяцкай цішы.
Фартуну не загаварыш,
І слова роднае забыўшы,
І старгаваўшы з шыі крыж.

Караў запал гадоў няўмольных,
Калі палохаў веставы.
Заўсёды быў у ляшскіх войнах
Ахвярны полк перадавы.

Еўропы слынная застава,
Стаяла некалі скала.
Ды не для паспалітай справы
Літва пабітая была.

### 70. СВАЯК
**(Баркулабаўскі летапісец)**

Маўчалі радкі пра цароў
 і слаўтых герояў імгненні,
А проста сказала пяро
 аб нягучнай вясковай глухмені.
Старонка, бы сэрцу смала,
 сярод светлага гаю...
Адна яна толькі й была
 на ўсім свеце такая.
Скарбонкаю розуму
 ціха ляжаў паміж сонцам і прахам
Прыстанак бярозавы,
 як суцішэнне далёкага шляху.
Збіральнік асобай даніны
 з камор сваіх і сутарэнняў,
Аддасць ён былым незабыўным
 за гэта тваё задуменне.
Не толькі ж там хмары навіслі,
 скруціўшыся ў гэтакі вузел.
...Якія жылі тут калісьці
 з ім мілыя добрыя людзі!
Бяжыць час няспынны,
 і сонца ізноў узыходзіць упарта.
Хацелася б добрай гадзіны
 суседзям і сёння, і заўтра.
Ды цені занадта крывыя
 ад гора кругом і ад сцюжы.
Чаго землякі нарабілі,
 што ліха найшло ім па вушы?
І злоснаю воляй якой
 недародам падбіты аратай?
Паўсюдна галоднай мятлой
 ды павымела бедныя хаты.
Скрозь прыцемку чорны адчай
 голас торкаўся горка і слепа:
- Зязулухно, матухно, дай
 хоць бы крышачку, мілая, хлеба...
Заткне ажно горла камяк –
 ні спакою табе, ні прыстанку.
І сам, бы апошні жабрак,
 пойдзеш з торбай балючаю зранку.
Кагосьці, мо, ад смерці заступіш,
 падзеліш няшчасце нядолі.
Апошняе толькі не згубдзіш,
 маўчанкай не страціш ніколі.
Надзея жыцця і папрок,
 застанецца з крыжом тваім Боскім –
Зямлі запаветны куток,
 вечна любы, бязлітасна жорсткі.

### 71. ПРЫСТАНАК

Час наслаў злую засень,
Дарогі апошнюю змору.
Толькі храм земляка ўзвышаўся
Сярод палыновага мора.

Называўся каўчэг перад ганкам - труна,
Што нясла нежывое.
Звыш галоў захлынула прастору вайна
Слязамі з крывёю.

Дак падоўгу крумкач ля спажывы
 кружыў
Над старонкаю грэшнай.
Збег адгэтуль таропка на бераг чужы
Брат разумны, старэйшы.

Абярнула, здавалася, нам за грахі
Нават сонца – ў руіну.
Толькі ў гэтым прыстанку ды пах дарагі
Бог, як костку пакінуў.

Апраметнай здалёку прынёсшы чуму,
Не адняў усю сілу.
Яшчэ дыхаць дазволіў у храме свайму
Абадранаму сыну.

Не вагаўся над лікам вышэйшым зямляк,
За Хрыстом ішоў следам.
І адно аб пасланцах ягоных, дзівак,
Пэўных вестак не ведаў.

Ды затое жывіла ў храме сумленніка
Розум – замова.
Як жалейка лясная, гучала для верніка
Матчына слова.

І што Рым, што, урэшце, Масква
Перад гэтым здарэннем?
Хатні храм мужыка паўставаў
Над усім ачмурэннем.

Бы звышсіла хавала зямлі дабрыню
Ў абдымцы абраду.
Свой, вясковы святар
 ладзіў з братам сям'ю
Не па польскаму ладу.

Яшчэ ласцілі ў сценах нязграбнай будовы,
Крапілі крыніцы.
І дарэмна зацейвалі гульні пра ловы
Ля іх чужаніцы.

Як ні вабілі сінія далі
І вецер ні гушкаў,
Каласы ад зямлі не злятаЛі –
Не спрытныя птушкі.

### 72. СМЯРОТНІК
**(Я. Кунцэвіч)**

Не было як сысціся з епіскапам
нейкаю радай –
На адлегласці стрэлу шалеў
ад тутэйшых схізматаў.
Перад людам з'яўляўся
неўтаймаванай халерай.
Прымушаў усіх чыста хрысціцца
ў новую веру.
Разбягаліся злоснага голаса
лютыя хвалі.
І стары, і малы ў наваколлі
бясправна стагналі.
Быццам сонца згасала, выходзіла
ў морак туманны.
Зачыняліся рускіх людзей
праваслаўныя храмы.
Калі лаяў народ ліхадзействы
нячыстай задзіры,
Не маглі не нацешыцца з воіна
ўсе камандзіры.
Навучылі прамудрасцям
ды навялі забіяку.
На плячах яго хціва пайшлі
езуіты ў атаку.
Паказалася мордай спраўднай
драпежная зграя –
І аглядка ранейшая здрадзіла ім
залатая.
Вось жа зараз дацiснем,
яшчэ адно толькі імгненне.
Ды і тут чалавек – Божы дар,
як само ўтрапенне.
Кожны дзень качагарыў, распальваў
надвор'я сгыхію.
Як знарок, у ахвяры імкнуўся ён
і ў святыя.
Ужо ведаў і сам – вось-вось грымне
яна, катастрофа.
Не давала спакою вар'яту
чужая Галгофа.
Ды маўчаў ён, аднак, як паліла яго
свербам тайным,
Бо даўно успрымаўся людзьмі
па-за сэнсам нармальным.
Сустракаў на дарозе сваёй
раззлаваныя твары.
І гусцелі у Віцебску ўжо
навальнічныя хмары.
Ясна пахла ў паветры бязлітаснай
будучай кроўю.
Хваляваліся гневам гурмы і кастры
за Дзвіною.
Хіба ёлуп не ведаў адзін –
чым яно адзавецца.
Папярэджваў канцлер сам
словам суровым шаленца.
Ды гарэлі вуглі яркай барвай,
злавесна не тухлі.
Да канца пёр уперад,
свае закусіўшы ён цуглі.
Аж нарваўся на кару гарачае дзеі,
пракляты.
Перапоўніла кропля цярпенне,
абрануўся час Лістападу.
Восень крылы над ім крумкачовы
ўміг распрасцёрла –
Раззлаваўся натоўп, ухапіў душахвата
за горла.
Не цягнулася доўга малітва злачынцаў.
Зляцела
У раку чорным камнем з абрыву
зняемелае цела.
З небывалай жудой сталі явай
ліхія намеры.
Нат і крыж не спыніў на грудзях
у пакутніка веры.
Патанула зямля ў агні ўтрапення
і злосці.
Тут, як хочаш, без д'ябла шалёнага
не абышлося.
Знаді племя цярплiўцам развaжлівым
і асцярожным.
Але барвай мяжа налівалася, шрам наш
апошні.
Ля смяротнага краю была,
заступалі не самі,
Калі тухла аднойчы святло,
ў разоранам храме.



### 73. ВУЧАНЬ
**(М. Сматрыцкі)**

-Чым бы ні сталіся мы – паступова
закацімся Ляхіяй.
Раніцай скончым нашае слова
гучнай анафемай.
Дзе ён, закон самавіты,
народам аплаканы?
Сэнсу, ўсё роўна, што ты не рабі тут
няма аніякага.
Нашы паночкі за кожнаю хвіляй –
хіба не спрытныя?



Ўсе палінялі, паўсюдна змянілі
скуру абрыдлую.
Гэтак і уніі не запярэч –
як шчыруе, настырная!
Пэўна, і нельга інакш, насамрэч,
дзеля сонейка мірнага.
Не пасварыць хай нас крыжа святло.
Вунь у Віцебску
за першародства паўсталі сваё,
распачаўшы крывінушку.
О, не самахоць пачнем Божы суд,
не захлынемся крыўдаю.
Страшна яна нам абыдзецца тут,
паміж Сцылай, Харыбдаю.
Пэўна, памянуць Мялецiя прах
ці не падлай зміястаю.
Пройдзе жа час – назавуць здрады жах
сваім прозвішчам ісцінным.
Не, не паразаю ў барацьбе
і не смерцю дачаснаю.
Скажуць: да згоды тады, да сябе,
суайчыннік вяртаўся мой.
Ровам пабіты ажно неабсяжным,
быў ладу абраннікам.
Вучнем ягоным я стаўся разважным,
асобым настаўнікам.

### 74. НЕЎТАЙМАВАНЕЦ
**(А. Філіповіч)**

З манахам не зналася слова "крыху",
свае разумеючы слабыя шанцы.
Ніколі яшчэ на літоўскім шляху
такіх не траплялася неўтаймаванцаў.

Айчына выходзіла зноў з берагоў,
набатам адданыя звала плямёны.
Вакол спакваля разліваўся агонь –
быў час для яго акаянна-шалёны.

Бы з ранай адкрытай ля сэрца глядзеў,
як шпарыць кругом каталіцкая пошасць,
Ірвецца ў самай агіднай брыдзе
да каліва дух праваслаўны спустошыць.

Застаўся ад храма парушаны звон –
такое паўсюдна ішло паляванне.
Хто б вынес спакойна – ды толькі не ён –
над рускаю верай святой насмяянне.

Аб лёсе Радзімы не вельмі гадаў –
ляжаў на ўсходзе магніт яго думак.
Якой ні была б нешчаслівай бяда,
у роднай Маскве ён шукаў паратунак.

Адчуў для адной пуцявіны пару.
дбаў ноччу і днём аб належнай расплаце.
Павёз у Расію пасланне цару,
вялізную гора-слязу Божай маці.

Увесь сапраўды быў рашучы агонь
і выбух апошні шалу-нясцерпу.
О, нельга яна без Авакума свой
зямлі пад цяглом навальнічнага неба.

Няспынная ўспамінала туга,
як дух іншаземны краіну сурочыў.
Кароне самой усю праўду змагар
скрываўленай куксаю тыцкнуў у вочы.

Не змог у магілу сысці ў труне,
калі надышоў яго міг палыновы.
Ды як Перасвет на Айчыннай вайне,
разбіўся грудзямі аб меч пачатковы.

### 75. МАСКАЛІ

Церпяць жа паноў праклятых вочы!
Ох, няма на іх адной пятлі!
Вось калі б прыйшлі на нас аднойчы
Родныя суседзі – маскалі.

Як яшчэ пазбавіцца ад ліха?
Ды няўжо той не наступіць час?
Не яны – дык ад бяды вялікай
Хто тады і выратуе нас?

Што да злой нядолі прыкавала –
Разбярэцца, хіба, шэры птах.
Акружыла ляшская навала,
Сутаргай прайшлася па грудзях

Быць ім вечным, вузам старадаўнім
Супраць розных войтаў і валок.
Ён не здрадзіць клятве праваслаўнай
Нізавошта, рускі мой браток.

Мы з адной з'явіліся калыскі,
Не затопча вораг нашу гаць.
Аніякім межам сатанінскім
На кавалкі нас не разарваць.

### 76. ВЫЗВАЛЕННЕ

Вось і панскае знікла цягло
ў меморый лісты.
Вызваленне, нарэшце, прыйшло
ад ласкавай Масквы.

Грымнуў полымем сам Божы гнеў
крывапіўцам у твар.
Ад душы накарміў, абагрэў
край наш бацюхна-цар.

Абнадзеіў плямёны,
прагнаўшы адсюль караля.
Доўга певень чырвоны
па хатах бліжэйшых гуляў.

У вачах – нібы потарч
злы золак ступаў напрасткі.
І валяліся побач,
як куча галля, мерцвякі.

Не было дзе падзецца
ад смерці – ішла напралом.
А найлепшых умельцаў
выводзілі ў рускі палон.

І маўклiва цярпеў
сам Гасподзь чорны дым гарадоў.
Каму верыць цяпер
нам пасля праваслаўных братоў?

Скажа гвалту пятля –
колькі нашай сямейцы вякоў.
Адно попел гуляе
па голай пустэчы вакол.

Роўна дыхаць няможна.
У пекле вось так апячэ.
Толькі й сілы апошняй –
за дрэва трымацца яшчэ

Кожны міг будзь гатовы,
што грымне ў вочы ружжо.
Хіба руская мова –
звярыная мова ўжо?

Ці не мы звалі жаласна
на дапамогу з пятлі?
Дык гуляйце жа радасна –
родныя нашы прыйшлі...

### 77. БЯДА

З прыцемкаў насунуўся абрыў,
поўны папялішчаў і шкілетаў.
Край усёй жуды не ўявіў,
да канца бяды сваёй не зведаў.

Ледзьве варушылася рука,
калі млява ў роспачы хрысціла...
У яшчэ жывога земляка
трупы скрозь былі перад вачыма.

Можа сам, здранцвелы ўвесь, ужо,
у грудзях не адчуваў і жаху.
І калі, хістаючыся, йшоў –
пратінаўся смерці страшным пахам.

Хто яшчэ і чым яму гразіў?
Перанесла й свету аняменне
скура, адубелая зусім
для адчаю горкіх галашэнняў.

Так раптоўна сціхнулі званы...
Дзе яны, заступнікі святыя?
Попелам спустошанай зямлі
твары амываліся сляпыя.

У жалобе заціхаў прастор,
вянула разгубленая ніва.
З вышыні, як слабенькі акцёр,
сонца выскалялася фальшыва.

Сутаргай усё вакол звяло.
Дзе, якія існавалі лекі?
Роспачу дзяліліся сваёй
стрэчныя вандроўнікі-калекі.

А што скажаш? Гінем і гарым,
іншым зрок нічым не задаволіш.
Дык ці не на белым свеце ўсім
толькі і было адно і тое ж?

Побач дым, і могільнікі спрэс,
і дарога, як арканам, легла.
Толькі ты, наш добры ўтульны лес –
выспа ратавальная між пекла.

Ведаю – пакорны родзіч мой
долю сваю выцярпіць праклятую.
Гэтак моцна ў чым перад табой,
Божухна, усе мы вінаватыя?..

Колькі засталося – адкажы! –
у цябе ад д'ябальскай усмешкі?
Зноў на неба косці ды крыжы
шчэрацца, як быццам галавешкі.

Пашырэлі дзікія палі,
пашу прэч адсунула балота.
І багата стала на зямлі
нежывой абпаленай свабоды.

Для каго была замест куцці
сокаў глебы гаючая праца?
Нам бы шэптам мовіць аб жыцці,
ды ўжо было не дакрычацца.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Вянок лёсу Альдоніі Наўчанковай

Клецкае раённае таварыства беларускай мовы імя Сымона Буднага выдала кніжачку вершаў Альдоніі Наўчанковай “Вянок лёсу”.




*__Альдонія Наўчанкова__ нарадзілася 2 чэрвеня 1939 года ў вёсцы Пільніца Стаўбцоўскага раёна. Пасля заканчэння школы ўдзельнічала ў асваенні цалінных зямель, 15 гадоў працавала ў Карэліі. Пазней, у 1978 годзе яна вяртаецца на сваю Радзіму ў Пільніцу, а праз год пераязджае ў Клецк, дзе і жыве зараз.*

*Свой першы верш “Пільніца” Наўчанкова напісала ўжо ў сталым узросце, калі яна вярнулася на Беларусь.*

*Пра сябе паэтка гаворыць мала, сціплая, шчырая ў адносінах да людзей, усім сэрцам пранікнута жыццём Беларусі, патрыятызмам, што немагчыма не заўважыць чытаючы яе вершы. Яны рознай тэматыкі, на расейскай і беларускай мовах.*

*З 1998 года піша толькі на роднай мове, прыгожа, шчыра, змястоўна, закладваючы ў кожны радок глыбокі сэнс.*

*Раней друкавалася ў газеце “Прамень” Стаўбцоўскага раёна, газеце “Наша слова”, у зборніках “Верыцца ў лепшае, хочацца марыць”, “Верш на свабоду”, “Валошкі ў жыце”.*

*Альдонія Наўчанкова пастаянны аўтар раённай газеты “Да новых перамог”. З’яўляецца сябрам літаратурнага аб’яднання ‘Голас” пры райгазеце.*

**Часлава Князева**
**старшыня раённай арганізацыі ТБМ імя С. Буднага.**

*Анёлы дзяржаць у далонях*
*Сімвал ліцвінскай “Пагоні”:*
*Ягайлаў, Сапегаў, Міндоўга,*
*Сімвал дзяржаўны - надоўга.*
*Яго выракацца - знявага.*
*Не помніць - трагедыя наша -*
*Чырвона-белага сцяга,*
*Які пра Радзіму раскажа.*
*Пра час ганаровы і смутны,*
*Пра душы князёў Радзівілаў,*
*Што ходзяць па замках пакутна,*
*Дасюль не знайшоўшы магілаў.*
*Анёлы дзяржаць у далонях*
*Сімвал Радзімы -”Пагоню”...*

### Незабыўнае

Вашай слушнай прапанове
Размаўляць на роднай мове
Я ўдзячна і скажу;
Мовай гэтай даражу.
І вучуся, і баюся
Не абразіць бы яе.
На пагост свой я вярнуся,
Людзі родныя мае...
Недзе там, у полі, у лесе,
Дзе дзяцінства засталося,
Жне матуля жыта з песняй
І мяне малую носіць.
Там за хвост лавіла бусла.
І ў травах тых танула,
Маёй светлай рэчкі русла
Нас, малых, не падманула.
За вадзіцай той крынічнай,
Што нясе Вуса ў Нёман,
Мы ішлі ў лес сунічны,
У птушыны звонкі гоман.
І рака на роднай мове
Свае песні нам спявала,
Бераг хмелем завівала,
У снапочкі спавівала.
Я гляджу з замілаваннем
На пражытае, былое.
Помню першае спатканне
У юнацкіх чыстых мроях.
Мае родныя пагосты
Незалечаныя раны.
Да вяртання
шлях няпросты,
Але лёс наканаваны.
5.09.1999г.

### Папараць-кветка

Звар’яцелая ноч на Купалу -
Цэлы горад варожыць, не спіць.
Нават ведзьмы выходзяць памалу,
Каб у душах агонь запаліць.
Каб знайсці тую папараць-кветку
Адну ночку красуе яна,
Ходзяць парамі нават падлеткі,
Маладым без яе не да сна.
Як паданне, купальскія ночы
Жывуць тут з сівой даўніны.
Паглядзяць закаханыя вочы,
І ў сэрцы зазвоняць званы.
Дык шукайце ж купальскую кветку,
Няхай шчасце вас не абміне.
Неяк раз, на Купалле, улетку,
Давялося знайсці яе мне.
Верце, ёсць гэта папараць-кветка,
Абаяльнай, дзівоснай красы.
Я была цуду гэтага сведкай,
Чула той даўніны галасы.

### Мая вёска.

Вунь крыж на ўзгорку ля вёскі.
Ён - знак гэтых добрых людзей.
Вузкія градкі-палоскі,
Правінцыя. скупасць падзей.
Усё тут спрыяе для шчасця:
За рэчкай лясы, як сады,
Так хочацца справы адкласці,
На тыдзень прыехаць сюды.
І з роднай, жыццёвай крыніцы
Натхненне хмялеючы піць.
Збіраць на палянках суніцы,
Душу супакоем лячыць.
На золку хадзіць па лісічкі,
Каб першы мой след па расе
Іх жоўтыя вабяць спадніцкі,
Калі яны спяць яшчэ ўсе.
А ў рэчцы лагодныя хвалі,
На сонейку грэюць ваду.
Так лета малыя чакалі,
Гурбою купацца ідуць.
Прыгожая, родная вёска,
Ёй людзі старэць не даюць,
Стаіць пад апекаю Боскай,
Шануючы годнасць сваю.

### Роздум

Няўжо мая душа бадзялася па свеце,
Няўжо яна жыве не першы раз,
Як гэтых траў прыгожае суквецце,
Што кожны год з’яўляецца да нас?
Няўжо яна ў цемры дзе блукала,
Каб стаць адхвяраў пройдзеных вякоў?
Каго знайшла, каго яшчэ шукала,
Каб запаліць яму ў жылах кроў.
Была яна шчаслівай ці няшчаснай?
Якім багам малілася яна?
Адкуль прыйшла, каб стаць маёй уласнай?
З якіх глыбінь душа мая ўсплыла.

# БЕРАЖНІЦА

У выдавецтве “Мастацкая літаратура” пабачыла свет кніга вершаў “Бярэжніца”. Гэта дэбют 20-гадовага студэнта БДЭУ Рагнеда Малахоўскага, які нарадзіўся ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці

Калі чытаеш вершы Рагнеда адчуваецца, што паэт знаходзіцца пад моцным уздзейнічаннем класікаў беларускай літаратуры, менавіта таму яго паэзія размерана-стрыманая, без рэзкіх наватарскіх хістанняў, без знаку самаўлюбёнасці.

Душэўная споведзь аўтара не можа не кранаць шчырасцю, лірычнасцю і духам роднага краю, захапляе яскравасцю трапных вобразаў, выверанасцю радка, гарманічнай завершанасцю верша.

Мне асабіста спадабаўся верш “Сцяжыны кахання”. Мова вершаў не пакідае абыякавым ні маладога, ні сталага прыхільніка паэтычнага слова рэдактарам літаратурна-паэтычнага слова выдання з’яўляецца вядомы паэт Віктар Шніп.

Трэба адзначыць, што Рагнед ужо добра вядомы аматарам паэзіі па калектыўных зборніках, газетах, а таксама часопісах.

Лічу, што акрамя аматараў нетрадыцыйных наватарскіх хістанняў і авангарду паэтычная творчасць – дэбютанта спадабаецца ўсім чытачам з добрым густам. Кніга “Бяражніца” – гэта не адмова ад наватарства, а крок насустрач усім, хто жыве ў стылі “маэстра”.

***Аляксей Шалахоўскі.***

## *Да ўвагі ўдзельнікаў IX з’езду ТБМ.*
## *Збор дэлегатаў і гасцей перад Чырвоным касцёлам у Менску з 9.30 30 кастрычніка.*

## Я. Дзвізаў



**Ход чорных. Выйгрыш.**

1\. ... edФ6+ 2.Кр:b2 Фc1+ 3.Кра2 d1Ф 4.Кe6+ Кр6+ Кре7 5.g8К!+ Л:g8 (5. ... Крf7 6.d8К!+ Крg6 7. Кf8+ Крg7 8.Кde6+ Крf7 9.Лd7+ Кре8 10.Лe7х; 6. ... Кре8 7.К:c7+ Крf8 8.Кde6+ Крf7 9.Лf5+ Крg6 10.Кe7+ Кр:h7 11.Лh3+ Фh6 12.Лf7х) 6.hgК!+ Кр:e6 (6. ... Крf7 7.d8К!+ Кре8 8.К:c7+ Крf8 9.Кce6+ Кре8 10.Кf6+ Кре7 11.Лd7+ Кр:f6 12.Лf3+! Ф:f3 13.Лf7+ Крg6 14.Л:f3 + -) 7.d8К!+ Кр:d5 8.Кf6+ Кр:d4 9.Кc6+ Кр:c3 10.Кe4+ Кр:c2 11.Кb4х.

Эцюд прысвячаецца 40-годдзю творчай дзейнасці і супрацоўніцтву ў шахматным аддзеле газеты “Звязда”.

Эцюд адлюстроўвае тэму верша М. Багдановіча “Пагоня”. Белыя коні, пераўтвораныя з пешак матуюць чорнага караля, якому блакуюць палі ўласныя фярзі, таксама пераўтвораныя з пешак. (коней на пераправе трэба мяняць.)

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 10. 2005 г. у 11.30. Замова № 1710.
Аб’ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.